ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!




# КААПЭРАЦЫЯ БССР




ЧАСОПІСЬ БЕЛКААПСАЮЗУ і БЕЛСАМПРАМСАЮЗУ

ВЫХОДЗІЦЬ АДЗІН РАЗ У 20 ДЗЁН

10—30 МАЯ

№ 3

МЕНСК — 1930

# ЗЬМЕСТ



Галоўлітбел № 2104 Заказ № 2354—1500 экз. Друк. „Палесдрук“. Гомель.

**ГАРАЧЫ ПРЫВЕТ XVI ЗЬЕЗДУ ЎсеКП(б) І XIII ЗЬЕЗДУ КП(б)Б.**

**ЦЯСЬНЕЙ ШЭРАГІ РАБОЧАЕ КЛЯСЫ ВАКОЛ БАЛЬШАВІЦКАГА АВАНГАРДУ**

# Спажыўкаапэрацыя БССР паміж XII і XIII зьездамі КП(б)Б

Спажыўкаапэрацыя, якая зьяўляецца адной з асноўных і важнейшых частак народнае гаспадаркі, пад кіраўніцтвам КП(б)Б, мае значныя дасягненьні ў галіне росту каапэраваньня, зваротаў, паенакапленьня, гандлёвай сеткі, грамадзкага харчаваньня, хлебапячэньня і культ-бытавога абслугоўваньня. Аднак маючыяся дасягненьні, асабліва з якаснага боку, ня вычэрпваюць усіх задач, якія спажыўсыстэма павінна вырашыць у сувязі з буйным ростам сацыялістычнага будаўніцтва і патрабуецца колькаснае і якаснае іх пашырэньне з стварэньнем рашучага пераломý і забесьпячэньнем павышаных тэмпаў працы ў гэтым напрамку.

Праблемы і задачы спажыўкаапэрацыі выцякаюць і ўвязаны з праблемамі і задачамі індустрыялізацыі краіны, калектывізацыі сельскае гаспадаркі і соцыялістычнай перабудовы быту. Усё гэта прыкоўвае і павінна прыкоўваць увагу шырокіх мас працоўных гораду і вёскі. Сур'ёзьнейшая ўвага павінна быць зьвернута на меўшыя і маючыя месца недахопы і прарывы ў працы і іх зьнішчэньне, на правядзеньне рашучай барацьбы з усялякімі ўхілістамі ад генэральнай лініі партыі ў працы каапэрацыі.

Пастановай ЦК УсеКП(б) аб спажыўкаапэрацыі ад 15/V зусім справідлова пастаўлена пытаньне, што „арганізацыйныя мэтады і тэмпы работы спажыўкаапэрацыі працягваюць адставаць ад агульных тэмпаў савецкага будаўніцтва" і што вынікам адставаньня ад агульных тэмпаў сацыялістычнага разьвіцьця і невыкананьня ўскладзеных на спажыўкаапэрацыю задач зьяўляюцца „слабое правядзеньне важнейшых заданьняў аб зьніжэньні цэн на тавары шырокага спажываньня, працягваючыся самацёк ў працы, няўменьне гандляваць, няўменьне манэўраваць тварнымі фондамі, слабая работа па арганізацыі прыгарадных гаспадарак, бюракратызацыя работы і вельмі слабое разгортваньне грамадзкасьці, адсутнічаньне сапраўднага сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, слабасьць каапэрацыйных кадраў і засьмечанасьць апарату чуждым элемэнтам".

Перад партзьездам усе каапарганізацыі павінны праверыць сваю клясавую здольнасьць і ўменьне сваячасова і выразна ажыцьцяўляць дырэктывы партыі.

Выкананьне гандфінплану спажывкаапэрацыі патрабуе мабілізацыі ўсяе каапграмадзкасьці навакол плянавых заданьняў, улічваючы ўдарныя тэмпы сацыялістычнай рэканструкцыі.

З усёй рашучасьцю спажыўкаапэрацыя павінна ўзяцца за правядзеньне важнейшых практычнх мерапрыемстваў па забесьпячэньню павышэньня рэальнага ўзроўню зарплаты рабочых, паляпшэньню якасьці абслугоўваньня спажыўца, узмацненьню культ-асьветнай працы і стварэньню новага сацыялістычнага быту. Асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на стварэньне мясцовых рэсурсаў (харчовай базы) шляхам арганізацый сельскай гаспадаркі, гародніцтва, малочных фэрм, кантрактацыі і нарыхтовак, праводзячы сацыялістычнае спаборніцтва за скарэйшае выкананьне і дасягненьне лепшых вынікаў у працы як паасобных зьвеньняў спажыўкаапэрацыі, так і ўсяе яе сыстэмы.

У суадпаведнасьці з задачамі і запатрабаваньнямі спажывкаапэрацыі павінна быць праведзена рашучая рэарганізацыя яе асобных зьвеньняў і апарату ў напрамку зьнішчэньня паралелізму і стварэньня такой структуры і функцыі кожнага паасобку зьвяна, якія-б забясьпечылі чоткасьць і гібкасьць працы сыстэмы з канкрэтнымі абавязкамі і адказнасьцю за выкананьне і правядзеньне асобных мерапрыемстваў.

У працы пры правядзеньні ўсіх мерапрыемстваў па спажыўкаапэрацыі павінен быць забясьпечан такі тэмп, які суадпавядаў бы тэмпу сацыялістычнага будаўніцтва.

Пад кіраўніцтвам КП(б)Б, мабілізуючы рабочых, батрацтва і бядняцка-серадняцкія масы, выканаем задачы, пастаўленыя перад каапэрацыяй.

Хаскін

# Аб новых задачах спажывецкай каапэрацыі

Аб новых задачах спажывецкай каапэрацыі ў сучасны момант вельмі шмат гавораць і шмат пішуць, аднак жа зрухаў у самай працы сыстэмы такой, катора-б забясьпечыла ажыцьцяўленьне гэтых задач, якія стаяць перад спажывецкай каапэрацыяй, мы да сягодняшняга дню ня маем.

У чым заключаюцца новыя задачы спажывецкай каапэрацыі?

У асноўным у тым, што спажывецкая каапэрацыя, якая працавала раней без дастатковай суадпаведнасьці з агульнымі задачамі сацыялістычнага будаўніцтва, праводзячы сваю працу старымі мэтадамі і формамі, зьяўляючыся на справе тэхнічным разьмеркавальнікам прадуктаў, у сучасны момант становіцца арганізацыяй, работа якой непасрэдна зьвязана са ўсёю палітыкай савецкага ўраду і партыі, работа якой займае адно з першых месц ва ўсім нашым сацыялістычным будаўніцтве.

Таму зусім зразумела, калі спажывецкую каапэрацыю са ўсёю рашучасьцю б'юць і б'юць правільна за адставаньне ў тэмпах, за маруднасьць у перабудове свае працы ў адпаведнасьці з агульнымі тэмпамі сацыялістычнага будаўніцтва, бо на многіх вучастках свае працы спажывецкая каапэрацыя працягвае заставацца ў тым жа становішчы, у якім была.

Вялізарнейшыя тэмпы сацыялістычнага будаўніцтва, на базе чаго хутка разьвіваецца індустрыя, павялічваецца рабочая кляса, перабудоўваецца сельская гаспадарка на сацыялістычны лад, са ўсёй сілаю высоўваюць перад спаж. каапэрацыяй неабходнасьць такіх тэмпаў і такой хуткасьці ў працы, каторыя змаглі-б цалкам забясьпечыць сваячасовае абслугоўваньне як рабочае клясы, так і сацыялістычнага сэктару сельскае гаспадаркі. Ня выконваючы гэтага, мы аб'ектыўна робімся тормазам у ажыцьцяўленьні гэтых вялікіх задач.

ЦК УсеКП(б) у сваёй пастанове ад 15 мая „аб новых задачах у працы спажкаапэрацыі“ кажа: „арганізацыйныя мэтады і тэмпы работы спажкаапэрацыі працягваюць адставаць ад агульных тэмпаў савецкага будаўніцтва. Слабое правядзеньне важнейшых заданьняў аб зьніжэньні цэн на тавары шырокага спажываньня, самацёк у працы, які працягваецца, няўменьне гандляваць, абслугоўваць спажыўца, няўменьне манэўраваць таварнымі фондамі, слабая праца па арганізацыі прыгарадных гаспадарак, бюракратызацыя работы, вельмі слабое разгортваньне грамадзкасьці, адсутнічаньне сапраўднага сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, слабасьць каапэрацыйных кадраў і засьмечанасьць апарату чужымі элемэнтамі—усе гэта патрабуе узмацненьня ўвагі партыйных, прафэсіянальных і савецкіх арганізацый да задач палепшаньня ўсяе працы каапэрацыйнай сыстэмы.

Таму, калі да гэтага часу надзвычайна трудна ўдавалася хутка і рашуча перабудоўваць нашу працу, зьнішчаць вялізны лік прарываў і хібаў у працы, дык цяпер, пасьля гэтай пастановы ЦК УсеКП(б), якое-б сабе ні было адцягваньне ў перабудове усяе працы — зусім недапусьціма. Гэта пастанова павінна быць усёй сыстэмай праведзена ў жыцьцё.

Перад спажкаапэрацыяй цяпер стаіць адказьнейшая задача па палепшаньню забесьпячэньня рабочае клясы. Абмежаванасьць на дадзеным адрэзку часу спажывецкіх рэсурсаў, як у сэнсе прадукцыі прамысловасьці, так і ў сэнсе прадукцыі сельскае гаспадаркі, патрабуюць ад спажкаапэрацыі актыўнага ўдзелу ў мерапрыемствах партыі і савецкай улады па пашырэньню харчовай базы.

Тут высоўваецца цэлы шэраг задач: цалкам ажыцьцявіць плян арганізацыі прыгарадных гаспадарак, малочных фэрм, адкормачных апэрацый,

пашырэньне загатоўкі дзейнасьці па лініі максымальнага ахопу загатоўкамі садова-гароднай прадукцыі і арганізацыя тэхнічнай базы, пры якой была-б магчымасьць поўнага забесьпячэньня пераапрацоўкі і хаваньня гэтай прадукцыі.

Таксама абмежаванасьць гэтых спажывецкіх рэсурсаў ставіць перад спажкаапэрацыяй задачу займацца ня толькі простым мэханічным разьмеркаваньнем гэтых прадуктаў, але і разьмяркоўваць іх такім чынам, каб гэта дапамагала выкананьню забесьпячэньня ў клясавым выкарыстоўваньні і садзейнічала выкананьню праграмы сацыялістычнага будаўніцтва на асноўных вучастках.

Разгортваньне працы па індустрыялізацыі краіны ўцягвае ў будаўнічыя работы вялізарнейшыя масы рабочае клясы. У Беларусі ў будаўнічым сэзоне 1930 г. будзе занята каля 200.000 рабочых. Гэта таксама патрабуе максымальнае напружанасьці ўвагі з боку ўсяе сыстэмы спажкаапэрацыі на тое, каб сапраўды гэтыя масы былі абслужаны.

Грамадзкае харчаваньне знаходзіцца ў нас у надзвычайна цяжкім становішчы. Між тым у гэтай галіне высоўваецца цэлы шэраг новых задач, якія заключаюцца ў тым, што спажкаапэрацыі неабходна ня толькі пашыраць справу грамадзкага харчаваньня ў горадзе, максымальна яго палепшаць, яле і заняцца арганізацыяй грамадзкага харчаваньня ў абагуленым сэктары сельскае гаспадаркі (у калгасах і саўгасах).

Усе гэтыя пытаньні, якія вынікаюць з цэлага шэрагу новых задач, што стаяць перад спажкаапэрацыяй, атрымалі ня зусім поўнае вырашэньне, і калі не зрабіць цэлы шэраг тэрміновых мерапрыемстваў, дык ёсьць вялікая пагроза, што яны выкананы ня будуць.

Першае—гэта найскарэй закончыць пачатую рэарганізацыю зьверху данізу усяе сыстэмы спажкаапэрацыі.

Рэарганізацыя Белкаапсаюзу, якая адбываецца, павінна вызваліць Белкаапсаюз, як цэнтральны апарат сыстэмы, ад цэлага шэрагу гандлёва-апэрацыйных функцый і перадаць іх адпаведным сярэднім і нізавым зьвеньням, зьнішчыць унутры самога БКСаюзу паралелізм і дубліраваньне ў працы паміж аднэю і другою часткай.

Другая задача, якая павінна вынікаць з рэарганізацыі апарату БКСаюзу, —гэта зрабіць БКСаюз выключна апаратам плянава-арганізацыйным і тым самым стварыць сапраўды плянуючы і арганізуючы цэнтр усяе сыстэмы спажкаапэрацыі.

Аднак, рэарганізаваць апарат, перабудаваць усю працу у адпаведнасьці з новымі задачамі можна будзе толькі тады, калі апарат будзе ачышчаны ад усіх няпрыгодных элемэнтаў, ад усіх бюрократаў.

Чыстка Белкаапсаюзу, якая прыпала з пачаткам перабудовы ўсяе нашай працы, нам у гэтым дапаможа.

Выкрытыя камісіяй па чыстцы абураючыя факты ў працы асобных зьвеньняў нашай сыстэмы (Полацкае аддзяленьне БКС, Гомрайсаюз) сыгналізуюць аб тым, што ня усё добра ў сыстэме.

Тое, што выкрыта ў Полацкім аддзяленьні, а таксама і ў Гомельскім райсаюзе, як моманты скрыўленьня клясавай лініі, самазабесьпячэньне, растраты, засьмечанасьць апарату чужымі элемэнтамі, прымушаюць усю сыстэму і ўсе яе зьвеньні безадкладна са ўсёй адданасьцю ўзяцца за рашучую барацьбу са ўсім гэтым злом. Трэба мабілізаваць вакол такіх пытаньняў шырокую пралетарскую грамадзкасьць і на базе разгорнутай крытыкі і самакрытыкі іх выкрываць.

Вурокі Полацкае справы і прарывы ў Гомрайсаюзе кажуць аб тым, што дырэктыва партыі аб ачышчэньні нашага апарату ад усяго чужога, не пралетарскага, што скажае клясавую лінію, ня выканана.

Шэраг выпадкаў кажуць аб тым, што гэтыя чужыя элемэнты па ранейшаму заставаліся ў апараце.

Полацкая справа і прарывы ў Гомрайсаюзе кажуць і аб тым, што праца сыстэмы ў асобных нашых зьвеньнях была адарвана ад шырокіх працоўных мас, была бяз іх кантролю, што галоўным чынам і тлумачыць тое,

што на працягу доўгага часу ня былі выкрыты ўсе гэтыя абураючыя факты.

Полацкая справа і прарывы ў Гомрайсаюзе кажуць і аб тым, што формы і мэтады арганізацыйнай працы ў сучасны момант абсалютна няпрыгодны. Праверка працы асобных нашых арганізацый інструктарамі, абсьледваньні, рэвізіі і інш. адбываліся бюракратычнымі чыноўніцкімі мэтадамі без уцягненьня ў гэту справу рабочых, батрацкіх і бядняцкіх мас. Таму зусім зразумела, што пасьля ад'езду абсьледвацеляў выкрываўся цэлы шэраг абураючых фактаў.

Вынік, які мы тут павінны зрабіць,—гэта хуткае і рашучае перабудаваньне ўсіх форм і мэтадаў арганізацыйна-інструктарскай працы.

Галоўнае, што павінна зьявіцца асноваю далейшай працы ўсіх арганізацыйна-інструктарскіх апаратаў, гэта тое, што ўся праца павінна адбывацца пры ўдзеле мас.

Аднак, гэтыя прарывы, якія мелі месца за апошні час у цэлым шэрагу нашых арганізацый, не прывялі яшчэ ў поўны рух усю сыстэму. Ня ўсе яшчэ зрабілі з гэтай справы адпаведныя вывады. Наадварот, наглядаецца заспакаеньне, самаўпэўненасьць і інш., што зьяўляецца самым небясьпечным у дадзены час.

Перад спажкаапэрацыяй цяпер стаіць вялікая задача—падрыхтавацца да новай загатоўчай кампаніі і падрыхтавацца па новаму так, каб к пачатку загатоўчай кампаніі сыстэма магла, як сьлед, выступіць на загатоўчым фронце.

Пытаньне максымальнага ахопу загатоўкамі садова-гароднага рынку па існасьці для спажкаапэрацыі зьяўляецца новым пытаньнем, якое будзе выканана толькі тады, калі цяпер ужо ўся сыстэма возьмецца за рашучую падрыхтоўку, укамплектаваньне загатоўчых апаратаў адданымі людзьмі, арганізаваньне неабходных будынкаў для складаў, тары, скарыстаньне усіх магчымасьцяй для таго, каб пазбавіцца ад усякіх перабояў у гэтай працы.

Выкананьне прамфінпляну спажкаапэрацыяй патрабуе мабілізацыі ўсяе каапэрацыйнай грамадзкасьці вакол пэўных плянавых заданьняў, каторыя павінны быць даведзены да першапачатковага каапэратыву, да асобнай крамы. Вынік выкананьня за першае паўгодзьдзе фінпляну па паёх і укладах, як па гарадзкой, так і сельскай сетцы гаворыць аб недапушчальных адносінах да гэтага рашаючага пытаньня ў працы ўсяе сыстэмы. Задача дню—дабіцца рашучага пералому і поўнага выкананьня фінпляну.

Асаблівае значэньне у сучасны момант у нашай працы набывае капітальнае будаўніцтва. Тая праграма працы, якая вызначана на 1929-1930 г., зьяўляецца мінімальнай і ахоплівае самае не адкладныя мерапрыемствы (хлебзаводы, сталоўкі, склады гародніны, прыгарадныя гаспадаркі і ў вёсцы крамную сетку). Таму ўвага сыстэмы павінна быць зьвернута, каб не дапусьціць зрыву будаўніцтва, вызначанага на гэты год.

Неабходна таксама дамагчыся максымальнага ўзмацненьня кіраўніцтва усёй працай нашай сыстэмы з боку адпаведных партыйных, савецкіх і прафэсіянальных арганізацый.

Полацкая справа і прарывы ў Гомлі паказваюць, што такога кіраўніцтва з боку гэтых арганізацый у дастатковай ступені ня было.

Неабходна таксама больш рашуча ў нашай сыстэме праводзіць вылучэньне рабочых, батракоў і беднякоў на кіруючую працу. Полацкае справа і прарывы ў Гомлі паказваюць на надзвычайна нязначную праслойку пралетарскага ядра ў апаратах нашых арганізацый. Недаацэнцы значэньня ўкомплектаваньня апарату вылучэнцамі з рабочых, батракоў і беднякоў трэба пакласьці канец.

Я думаю, што калі на самай справе і са ўсёю адданасьцю нашы арганізацыі возьмуцца за перабудову усяе працы, за выкананьне і рашучае праводзеньне ў жыцьцё цэлага шэрагу дырэктыў партыі і ўраду, за рашучае правядзеньне ў жыцьцё высунутых перад сыстэмай новых задач, мы з ускладзенай на нас працай справімся.

В. і П.

# Прарывы ў Гомрайсаюзе

Каапэратары лічаць Гомрайсаюз „лепшым саюзам у БССР“. Аднак, камісія ЦКК-РСІ, якая абсьледвала гэты саюз, выкрыла ў яго дзейнасьці шэраг вельмі істотных прарываў. Вось яны:

У 1929 годзе разьмеркаваньне тавараў па сетцы праводзілася Райсаюзам не на падставе вучоту сацыяльнага складу пайнікаў, а ў залежнасьці ад сярэдняга паю і звароту спажывецкіх таварыстваў. Такім чынам, тое спажывецкае таварыства, у якім кулакі і заможныя элемэнты колькасна мацней, атрымоўвала больш тавараў, чым бядняцкія спажывецкія таварыствы. З 15 лютага г. г. Райсаюз рашыў перайсьці на разьмеркаваньне па клясаваму прынцыпу. Гэты новы парадак разьмеркаваньня Райсаюз, аднак, прарабіў надзвычайна бюракратычным мэтадам. Замест шырокай растлумачальнай работы вакол гэтага мерапрыемства, асабліва ў частцы дэманстрацыі пераважнага абслугоўваньня калгасьніка перад адзінаасобнікам, Райсаюз абмежаваўся выданьнем звычайнага сухога абежніка, у якім ніводным словам сетка не інструктуецца аб практычным правядзеньні клясавага разьмеркаваньня.

У выніку гэтага сетка да сёньняшняга дня працуе навосьлеп. Райсаюз нават ня здолеў наладзіць вучот сацыяльнага складу абслугоўваемага насельніцтва, з прычыны чаго амаль усе дырэктывы аб арганізацыйным клясавым разьмеркаваньні засталіся амаль што на паперы.

Райсаюз у пагоні за прыбыткамі прадаваў шэраг дэфіцытных тавараў на сотні тысяч рублёў па-за сеткаю. Акрамя гэтага, ён значна лепей абслугоўваў тыя местачковыя спажывецкія таварыствы, старшыні якіх праявілі рвацкія здольнасьці. Гэта ўсё праводзілася за кошт недазабесьпячэньня глыбінных вясковых спажывецкіх таварыстваў. У выніку гэтага гандлярства і абсалютнай хаотычнасьці былі разнабоі ў забясьпячэньні насельніцтва. Адзначаюцца гэтакія выпадкі, калі ў той жа час адно таварыства выдавала пайнікам 2 кілё селядцоў, а другое—палову кілё. Зразумела, што гэтая гандлёвая палітыка павялічыла штучна дэфіцытнасьць раду тавараў і тым самым аб'ектыўна садзейнічала кулаку спэкуляваць на нашых часовых гаспадарчых цяжкасьцях.

Злачынствам у гандлёвай рабоце зьяўляюцца апэрацыі з прыватнікам. За апошні год Райсаюз купіў і прадаў прыватніку тавараў на суму каля ста тысяч рублёў. Райсаюз купіў у прыватніка на дзесяткі тысяч рублёў такіх тавараў, якія былі ў дастатковай колькасьці ў дзяржаўных арганізацыях, як, напрыклад: сіньку, атрамант. Райсаюз яшчэ ў апошнія месяцы прадаваў прыватніку дэфіцытныя тавары, як кардон, ніткі і г. д.

Загадчык гандлёвым аддзелам Грынфэльд асаблівую сымпатыю адчуваў да аднаго інваліда, які набраў у Райсаюзе ў 1929 г. дэфіцытных тавараў на суму каля шасьці тысяч рублёў.

Райсаюзаўцы рэгулярна забясьпечвалі сябе і сваіх сяброў з акруговых устаноў. Такім чынам, у 1929 г. у парадку самазабесьпячэньня было разбазарана рознай мануфактуры і іншых дэфіцытных тавараў на суму каля дзесяці тысяч рублёў. У апошні час неяк стала нязручна атрымоўваць тавары з уласных складаў і таму перайшлі на „арганізаванае самазабесьпячэньне“ праз Гомельскае раённае спажывецкае таварыства. Старшыня праўленьня Гомельскага таварыства і яго жонка забясьпечвалі кожнага райсаюзаўца, пачынаючы з прыбіральшчыцы і даходзячы да нам. старшыні праўленьня т. Ганзбурга, featuresознымі дэфіцытнымі таварамі: маслам, цукрам, пшанічнай мукой і г. д.

Запісак, па якіх сямейка Грабоўскіх разбазарвала каапэрацыйныя тавары, набралася звыш 500.

Сыстэма каапэрацыі акругі ў галіне паянамнажэньня праявіла яўную правую практыку. Замест націску на кулацтва і заможныя элемэнты ў адносінах спагнаньня паёў, сетка пашла па шляху націску на бядняцкія элементы, у выніку чаго бядняцтва пакрыла 79 проц. статутнага паю, а кулацтва—да апошняга часу яшчэ сябры каапэрацыі—62 проц. Гэтым патураньнем кулаку Райсаюз ня здолеў супроцьставіць клясава вытраманую лінію. У сакавіку 1930 г. саюз выдае абежнік, у якім сетцы прапануецца: „Спыніць водпуск тавараў усім пайнікам, не папоўніўшым статутны пай“. Гэты яўны праваапартуністычны абежнік, які забараняе водпуск тавараў усім пайнікам, у тым ліку і беднаце, ня быў нават адменен Райсаюзам пасьля красавікоўскай пастановы ЦК КП(б)Б аб тэрміновым спыненьні ўсялякіх адміністрацыйна-эканамічных мер узьдзеяньня ў паяспагнаньні. Але-ж раённыя каапэратары аказаліся яшчэ больш разумнымі, чым райсаюзўцы. Яны не абмежаваліся гэтым вынаходзтвам Райсаюзу. Каб „выправіць“ клясавую лінію ў паяспагнаньні з паасобных сацыяльных груп, Церахоўскія каапэратары выкарысталі астатак у 1200 р. паю пайнікаў, якія не перарэгістраваліся, для папаўненьня кулацкага паю і такім чынам падвысілі сярэдні пай кулака з 22 р. да 38 руб. Церахоўскія кулакі, праўда, з вялікай нечаканасьцю, але-ж з няменшым здавальненьнем, прынялі гэтую дапамогу Церахоўскіх каапэратараў.

У галіне абслугоўваньня саўгасаў і калгасаў Райсаюз абсалютна нічога не зрабіў. Усе дырэктывы аб арганізацыі грамадзкага харчаваньня, аб абслугоўваньні калгасаў у час сяўбы засталіся нявыкананымі. Нават забесьпячэньне трактараў гаручым было зроблена са значным спазьненьнем, і трактары мелі прастоі. Па культурнаму абслугоўваньню калгасаў сыстэма дапусьціла яўнае скажэньне партыйных дырэктыў. 35.100 рублёў, вызначаных на розныя культурна-масавыя мерапрыемствы на вёсцы ў працягу 1-га кварталу 29-30 г., па абслугоўваньню калгасаў і саўгасаў, было вызначана толькі 590 р.; з 510 кіносэансаў, праведзеных каапэрацыяй на вёсцы, у калгасах і саўгасах праведзены толькі 31. Наогул культмасавая работа пастаўлена злачынна дрэнна. Сыстэма ніяк ня можа выйсьці з марудных тэмпаў работы, і ўся яе дзейнасьць палягае ў тым, што, напрыклад, па бытавой працы ў мінулым годзе зусім ня было ясьляй, а ў гэтым годзе — адны ясьлі, у мінулым годзе—два аддзяленьні „Маці і дзіця“, а ў гэтым—тры.

Работы з беднатой амаль ніякай не вялося. З 70 спажывецкіх таварыстваў толькі 27 арганізавалі групы беднаты, але-ж і гэтыя існуюць на паперы. З каапэраваньнем беднаты справа стаіць ня лепш. Яшчэ на сёньняшні дзень ёсьць тысячы нескарыстаных рублёў па фонду каапэраваньня беднаты пры наяўнасьці тысячы некаапэраваных беднякоў.

Жывое кіраўніцтва было заменена мёртвай цыркулярщчынай. Загадчыкі аддзеламі і кансультанты зусім не выяжджалі ў раён. Загадчык гандлёвым аддзелам быў у раёне ўсяго два дні, загадчык загатоўкамі—9 дзён. Рэкорд пабіў загадчык гандлёвым аддзелам Мазырскага аддзяленьня Райсаюзу, які за 9 гадоў свае працы ў Мазырскай каапэрацыі літаральна ніводнага дня ня быў на вёсцы. Гэты Акакі Акакіевіч кіраваў разьмеркаваньнем тавараў, нарыхтоўкамі, гандлёвым інструктажам выключна праз перадрукаваньне цыркуляраў вышэйшых каапэрацыйных цэнтраў.

Рэвізіі праводзіліся ў зусім нязначным разьмеры. Шэраг с/т засталіся не абрэвізаванымі ў працягу 2 гадоў, і таму растраты вырасьлі на 10 проц. у параўнаньні з мінулым годам.

Праўленьне Райсаюзу праявіла яўнае прымірэнцтва ў рэагаваньні на абураючыя факты скажэньня клясавай лініі з боку паасобных таварыстваў: за неажыцьцяўленьне клясава-дыфэрэнцыяванага паю, за скажэньне

клясавай лініі ў галіне хлебанарыхтовак, за самазабесьпячэньне і разбазарваньне тавараў даваліся вымовы, якія заставаліся на паперы ў запыленых справах Райсаюзу.

Апарат саюзу засьмечан чужымі элемэнтамі: 20 проц. апарату—выхадцы з гандляроў, з клясава варожых шэрагаў. З 130 працаўнікоў толькі чатыры вылучэнцы і то з імі ніякай работы не праводзіцца. У калектыве ня было і няма ніякай самакрытыкі. Замест яе, назіраецца цкаваньне рабкора-дэмабілізаванага чырвонага камандзіра. Яго заметкі вырываліся з рук і зьнішчаліся сябрамі праўленьня. У Райсаюзе пануе сямейнасьць—у апараце каля 20 асоб родзічаў. Грамадзкія арганізацыі ня здолелі зьнішчыць гэтую сямейнасьць, кругавую паруку і ўзаемныя ўкрываценьствы, і таму яны не змаглі своечасова выкрыць і зьнішчыць гэтыя абураючыя факты безгаспадарчасьці, сувязі з прыватнікам і скажэньня клясавай лініі.

Так працаваў „лепшы“ Райсаюз...

Е. Эпштэйн

## Мясанарыхтоўкі і кантрактацыя жывёлы

У бюджэце рабочага харчаваньня мяса займае значнае месца. Вось чаму ў падвышэньні рэальнага ўзроўню заработнае платы правільнае разьвязваньне мясной праблемы павінна прыцягнуць да сябе выключную ўвагу. На жаль, мясной праблемай у БССР сталі займацца з некаторым спазьненьнем. Да лютага месяца, пакуль на рынак выкідвалася шмат жывёлы, прымалася да ведама значнае перавыкананьне плянаў і іх падвышалі тры разы (з 25.000 тон да 26, 27 і ў канцы 30.000 тон). Ужо на 1 лютага паўгадовы павялічаны плян мясанарыхтовак быў поўнасьцю выкананы) 16895 тон замест 17.000 тон па пляну на 1-е паўгодзьдзе). Пачынаючы з лютага месяца, тэмп нарыхтоўкі мяса пачаў рэзка скарачацца, што відаць з наступнай табліцы:

Нарыхтоўка мяса з I/X 1929 г. да I/V—30 г. (у тонах)

| Кастр. | Лістапад | Сьнежань | Студзень | Люты | Сакавік | Красавік | Разам: |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 2793,1 | 3885,3 | 4967,9 | 5249,3 | 3079,9 | 1432 | 1200 | 22607,5 тон |

Ня гледзячы на тое, што за першае паўгодзьдзе плян выканан на 125 проц., а на 1 мая гадовы плян выканан на 75,3 проц. мясныя рэзэрвы складаюць нязначную колькасьць. Да канца году мінімальная патрэбнасьць у мясе складае 12500 тон, тым часам як шляхам нарыхтоўкі магчыма будзе атрымаць ня больш 5000 тон. Галоўнай крыніцай папаўненьня мясных запасаў зьяўляюцца адкормачныя апэрацыі і кантрактацыя.

З усіх пастаўленых на адкорм 16738 галоў буйнай рагатай жывёлы і 37398 галоў сьвіней—на I/V засталося 5044 гал. буйн. раг. жывёлы і 27368 сьвіней. Пры поўным зьнішчэньні адкармліваемай жывёлы і сьвіней мы можам атрымаць каля 3500 тон мяса, і ўсё-ж будзе недахоп мяса каля 4000 тон для мінімальнага здавальненьня. Калі прыняць пад увагу, што некаторы пераходзячы запас павінен заставацца на 1 кастрычніка, дык трэба лічыць недахоп ў 5000 тон, які павінен быць папоўнены кантрактацыяй.

Пры 100-проц. выкананьні пляну кантрактацыі 135.000 галоў буйнае рагатае жывёлы і 50.000 сьвіней, нават лічачы магчымым скарыстаць н мяса 15 проц. ад закантрактована

буйн. раг. жывёлы і 60 проц. ад закантрактованых сьвіней, мы забясьпечылі-б мінімальныя патрэбы і мелі-б некаторы пераходзячы запас. На жаль на 1/V мы маем закантрактованай буйнай рагатай жывёлы 33500 галоў, ці 24,8 проц. пляну, і 21670 сьвіней, ці 43 проц. пляну. Калі дадаць, што ў лік закантрактованай буйнай рагатай жывёлы ўваходзіць значная колькасьць цялят, тэрмін контрактацыі якіх скончыцца ўлетку 1931 году, дык будзе відавочна, што сучаснае становішча кантрактацыі зрывае плян мясазабясьпячэньня, і што гэты вучастак працы павінен прыцягнуць ўсю увагу партыйнай савецкай і прафсаюзнай грамадзкасьці, каб дапамагчы кантрактуючым арганізацыям выканаць ў бліжэйшыя 5—6 тыдняў увесь плян кантрактацыі,

Зусім асобна з выключнай вострасьцю стаіць пытаньне аб кантрактацыі цялят-сысуноў. Намечаная ўрадам кантрактацыя 150000 цялят, ня гледзячы на тое, што ацел заканчываецца, на 1/V па даных НКГандлю выканана толькі на 1 проц. (!?) Пагражаючыя лічбы нарыхтоўкі цялячых скур сьведчаць аб брыдкім зьнішчэньні прыплоду буйнае рагатае жывёлы. Такі празьмерны забой жывёлы ўвосень і ўзімку гэтага гаспадарчага году азначае далейшае скарачэньне стада і павялічэньне цяжкасьцяй у рабочым забесьпячэньні ў наступным годзе.

Трэба адзначыць, што, ня гледзячы на ўзьнятую кампанію цэнтральнымі органамі, на месцах пералому яшчэ няма, і трэба з усёй рашучасьцю ўдарыць па расхлябанасьці і нядбайнасьці ў рабоце па ажыцьцяўленьню мерапрыемстваў, накіраваных на паляпшэньне рабочага забесьпячэньня і мясной гаспадркі БССР.




Сталоўка Полацкага ЦРК № 1

Я. Валожын

# Праца спажывецкай каапэрацыі з батрацтвам і беднатою

Ня гледзячы на тое, што за апошні час назіраецца пералом у працы з батрацтвам і беднатою ў бок яе паляпшэньня, трэба сказаць, што спажывецкая сыстэма не забясьпечыла да апошняга часу сапраўднага шырокага разгортваньня працы з батрацтвам і беднатою. Кіраўніцтва саюзаў гэтаю працаю і на сёньня зьяўляецца нездавальняючым.

Ёсьць дасягненьні ў арганізацыі груп батрацтва і бедняты выключна колькаснага парадку. Якасны бок працы зусім адстае і не забясьпечвае неабходнага ўплыву батрацка-бядняцкіх мас на перабудову спажывецкай каапэрацыі па выкананьню задач, якія стаяць на сёньняшні дзень. Арганізавана груп батрацтва і бедняты на 1/IV—30 годзе пры праўленьнях спажыв. т-ваў 178 і ў падраёнах 37. Разам 215 батрацка-бядняцкіх груп, а спажыв. т-ваў 243. Характэрна адзначыць, якая ўвага ўдзяляецца Менскім аддзяленьнем БКС працы з батрацтвам і беднатою, калі нават аддзяленьне ня ведае, колькі ёсьць груп батрацтва і бедняты пры праўленьнях спажтаварыстваў акругі, у той час, калі ёсьць спэцыяльны інструктар па працы з батрацтвам і беднатою.

Цікава, чым інструктар займаецца і чаго глядзяць кіраўнікі Менаддзяленьня?

Саюзы і аддзяленьні дапусьцілі злачынную маруднасьць у справе вылучэньня спэцыяльнага інструктажу па працы з батрацтвам і беднатою. І горш яшчэ тое, што некаторыя нашы арганізацыі, як у Воршы, Віцебску, Мазыры, дырэктывы Белкаапсаюзу аб вылучэньні спэцыяльных інструктароў па працы з батрацтвам і беднатою ня выканалі. Вылучылі па аднаму чалавеку для абслугоўваньня саўгасаў, калгасаў і працы з батрацтвам і беднатою.

Як такія дзеяньні загадаеце назваць, як ня правымі? Недаацэнка працы з батрацтвам і беднатою ў пэрыод бурнага росту сацыяліст. сэктару сельскае гаспадаркі і абвостранай клясавай барацьбы на вёсцы патрабуе большай згуртаванасьці батрацка-бядняцкіх мас вакол КПБ(б) на выкананьне ўсіх задач, якія стаяць перад краінай і, у прыватнасьці, перад спажывецкай каапэрацыяй.

Усе факты, паданыя тут і аб якіх будзе зазначана ніжэй, яскрава паказваюць, што нашы арганізацыі (ня толькі спажыв. таварыствы, але і акруговыя саюзы) не даацэньваюць гэтае працы. Плянаў працы груп батрацтва і бедняты няма па ўсёй сыстэме. Толькі нядаўна прыступілі нашы арганізацыі да складаньня плянаў. Пляны, складзеныя саюзамі і аддзяленьнямі па 100 проц. каапэраваньню батрацтва і бедняты у большасьці сваёй далёка ня пэўны. Адсутнічае вучот батрацтва, як каапэраванага, так і некаапэраванага. Ні адным саюзам местачковая бедната ня вылучаецца з графы „бядняцкія гаспадаркі“ ў асобную графу местачк. бедняты, што фіктыўна павялічвае проц. каапэраванасьці бядняцкіх гаспадарак.

Пры складаньні сьпісаў груп батрацтва і бедняты некаторыя арганізацыі не падыходзілі правільна: уключалі ў групу служачых працаўнікоў раённых установ, саматужнікаў, сераднякоў (Менск, Мазыр).

Сходы груп склікаюцца не рэгулярна. Наведваньне сходаў груп па некаторых акругах пастаўлена дрэнна. Ня ўсе групы пераключылі сваю працу на прапрацоўку асноўных палітычна-гаспадарчых пытаньняў будаўніцтва нашай краіны, а таксама працы самога спаж. т-ва, займаючыся часамі дробязямі.

Каапэраваньне бядняцкіх гаспадарак на Беларусі па спаж. т-вах на 1/III складае 90,9 проц., а калі вылучыць местачковую беднату, то проц каапэраваньня бядняцкіх гаспадарак будзе значна ніжэйшым. У каапэраваньні батрацтва і беднаты мы маем па некаторых раёнах вялікія прарывы; так, па Аршанскай акрузе, паводле весткак на 1/X—29 г., па Расьнянскаму раёну бедната каапэравана на 17,3 проц., па Чарэйскаму—на 38,5 проц., Аршанскаму—44,8 проц. Такія раёны можна знайсьці і па другіх акругах. Гэтыя прарывы ставяць пад рэальную пагрозу выкананьне дырэктыў партыі—100-проц. каапэраднякам і нават заможнаі частцы серадняцтва, служачым і г. д. (Мазыр і др. акругі), якія ня поўнасьцю спагнаны і да апошняга часу. Мы маем у сучасны момант шэраг спажыв. т-ваў, што ФКБ поўнасьцю скарыстан, і яшчэ ня поўнасьцю каапэраваны батрацтва і бедната.

Трэба ўжыць усе меры, каб пазыкі, выдадзеныя з ФКБ не батрацтву і беднаце, былі ў бліжэйшы час спагнаны.

У справе падрыхтоўкі кадраў для спажывецкай сыстэмы мы маем некаторыя дасягненьні, праўда нязначныя. Так, за 28-29 г. падрыхтавана на курсах райсаюзаў працаўнікоў для



Сходка калгасьнікаў у полі

раваньне батрацтва і беднаты да 1/X—30 г. Трэба кожнаму спаж. т-ву, саюзу і аддзяленьню застаўшыся час скарыстаць з найбольшай прадукцыйнасьцю, каб прарывы ў пытаньні каапэраваньня батрацтва і беднаты былі зараз жа ліквідаваны. У раёны з найбольшай адсталасьцю па каапэраваньню трэба кінуць інструктарскія сілы на ўзмацненьне гэтай працы. Трэба прыняць усе меры, каб дырэктыва партыі была выкана цалкам.

У скарыстаньні фонду крэдытаваньня беднаты па цэламу шэрагу спажывецкіх таварыстваў былі клясавыя скрыўленьні. Выдаваліся пазыкі сенізоўкі (кіруючы апарат, прыказчыкі, рахункаводы) з агульнага ліку падрыхтоўваемых на курсах 437 чал. батракоў 76, беднякоў 105 чал. Такім чынам, батрацка-бядняцкая праслойка на курсах райсаюзаў складала 41,3 проц. Па Белкаапсаюзу за 28-29 г. падрыхтавана 200 чал., з іх батракоў 31 чал., беднякоў 35 чал., батрацка-бядняцкая праслойка складала 33 проц.

За 29-30 г. (без Аршанскай і Бабруйскай акруг) праз курсы райсаюзаў прапушчана 285 чал., з іх батракоў—71 чал., беднякоў—72 чал.

Такім чынам, батрацка-бядняцкая праслойка складае 50,2 проц. Па

Белкаапсаюзу за 6 мес. 29-30 г. — 173 чал., з іх батракоў 89 чал., беднякоў 26 чал., ці батрацка-бядняцкая праслойка складае 66,5 проц. Такім чынам, мы бачым, што на курсах як райсаюзаў, так і БКС процант батрацка-бядняцкай праслойкі значна павялічыўся. У далейшым трэба забясьпечыць ня менш 70 проц. батрацтва і беднаты агульнага ліку курсантаў на ўсіх курсах, якія праводзяцца па ўсёй сыстэме. Для ўзмацненьня працы па падрыхтоўцы кадраў для спаж. каапэрацыі пры БКС арганізаваны з кастрычніка месяца 29-30 году батрацка-бядняцкія курсы, якія ўжо скончыла 45 чалавек і зараз навучаецца 41 чал. Пры вясеньнім наборы 1930-31 навуч. году ў Віцебскі кааптэхнікум неабходна забясьпечыць таксама ня менш 60 проц. батрацтва і беднаты.

У галіне гаспадарчага абслугоўваньня батрацтва і беднаты назіраўся целы шэраг парушэньняў клясавай лініі ў сэнсе забесьпячэньня тае часткі батрацтва і беднаты, якая засталася яшчэ па-за калгасам. Трэба адзначыць, што БКС ударыў па такіх загібах своечасова. Цяпер неабходна паставіць так працу спаж. т-ваў, каб для здавальненьня як калектыўнага сэктару, так і індывідуальнага таварныя фонды вылучаліся адначасова і разьмяркоўваліся паміж асобнымі сацыяльнымі групамі насельніцтва згодна ўстаноўленных норм.

І. Невяровіч

# Максымум увагі да хлебанарыхтоўчай кампаніі 1930-31 году

Рост калгаснага будаўніцтва, павялічэньне мінэральных угнаеньняў, павялічэньне пасеўнае плошчы, карыстаньне складанымі сельска-гаспадарчымі машынамі і наогул паляпшэньне апрацоўкі глебы дадуць у гэтым годзе значны эфэкт у сэнсе падвышэньня ўраджайнасьці хлебафуражных і інш. культур. Гэта гаворыць за тое, што неабходна зьвярнуць максымум увагі на новую хлебанарыхтоўчую кампанію 30-31 году, каб быць як сьлед падрыхтаванымі да прыёму новага ўраджаю.

Трэба зазначыць, што вялікія колькасныя паказальнікі спажыўсыстэмы ў мінулай кампаніі адзначаліся часта недастатковымі якаснымі паказальнікамі, а гэта ў сваю чаргу давала цэлы шэраг адмоўных фактаў, якія ў будучую кампанію не павінны мець месца. Так, напрыклад, пры актыўным удзеле грамадзкасьці наогул мы ўсё-ж мелі некаторыя месцы, дзе грамадзкасьць недастаткова была ўцягнута. Сацыялістычнае спаборніцтва было далёка недастаткова разгорнута, што зьяўлялася адным з буйнейшых недахопаў. У некаторых месцах ня было зьвернута належнай ўвагі на згуртаваньне вакол падрыхтоўчай кампаніі бядняцтва, батрацтва і г. д.

Растлумачальна-масавая праца была пастаўлена не на належную вышыню.

Кампанія ў зьвязку з гэтым у некаторых месцах дала парушэньне асноўных установак хлебанарыхтоўчай кампаніі.

З тэхнічных пытаньняў падрыхтоўчай кампаніі трэба зазначыць, што не захоўваліся нават элемэнтарныя правілы складзіраваньня (перагрузка, дрэнная насыпка і г. д.) і рацыянальнага ўтрыманьня хлебафуражу (Магіл. акруга). Гэтыя прарывы мелі месца таму, што зьвернута была недастатковая ўвага некаторымі арганізацыямі на пытаньні падрыхтоўкі. У выніку вышэйпаказанага былі выпадкі (праўда, адзіночныя) затрымкі сялян пры здачы, бо вагавай гаспадаркай недастаткова забясьпечваліся.

Асабліва трэба зазначыць, што проціпажарныя мерапрыемствы сыстэмы былі далёка не ў належнай ступені арганізаваны, што, бязумоўна, не паддаецца ніякай дадатнай ацэнцы.

Інструктарскі апарат сыстэмы слаба зьвяртаў увагу на тэхнічныя пытаньні хлебанарыхтоўчай кампаніі, і апошнія не заўсёды выпраўляліся ў тэрмін.

Зараз засталося мала часу да новай хлебанарыхтоўчай кампаніі, і спажыўсыстэма павінна ўлічыць недахопы мінулага году з тым, каб у гэтым годзе падрыхтоўчая праца забясьпечыла адсутнасьць вышэйпамянёных недарэчнасьцяй.

Праца можа быць добрай, калі працоўныя масы будуць уцягнуты максымальна ў нарыхтоўчую працу сыстэмы. Аб гэтым трэба паклапаціцца.

Гэты год пры ўзмоцненым разьвіцьці клясавай барацьбы з капіталістычнымі элемэнтамі ўскладае вялікую адказнасьць на сыстэму.

Пара ўзяцца за падрыхтоўку да хлебанарыхтоўчай новай кампаніі.



Удасканаленая печ хлебапякарні Аршанскага ЦРК

Я. Мясцовы

## Як кіравала БРС працай цэрабкопаў

Апарат аргаддзелу Белрабсэкцыі складаецца з 2 чалавек: кансультанта па арганізацыйных пытаньнях і інструктара па масавай працы (па штату 4 чал.); апошні па цэламу шэрагу прычын ужо амаль год як не працуе ў апараце.

Прэзыдыум БРС не праявіў ніякай ініцыятывы па ўкамплектаваньню апарату аргаддзелу, а спробы, якія рабіліся, разьбіваліся аб існуючае справаводзтва паміж праўленьнем БКС і прэзыдыумам БРС. Кіраўніцтва Цэрабкопамі нікуды ня варта. Да апошняга часу БРС не аглядвала ўсіх галін працы некаторых цэрабкопаў. Там, дзе раз у дзесяць год праводзіўся агляд, праўленьне ЦРК распушчалася

або аддавалася пад суд. Так, Добрускі ЦРК, як і ўсе астатнія, увесь час быў прадастаўлены сам сабе. Ніхто там амаль ніколі ня быў, лічылі, што хлопцы працуюць ня дрэнна. У 1927 г. наведаў Добрускі ЦРК інструктар БРС т. Рубін, які таксама кепскага нічога не заўважыў, уражаньне засталося здавальняючае, і гэта здарылася ў той час, як у цэрабкопе было колькі хочаш і якіх хочаш скрыўленьняў. Чаму здарылася гэта так, што т. Рубін нічога гэтага ня выкрыў? Таму, што мэтады працы былі бюракратычныя; маса ня прыцягвалася да працы па праверцы. Апраўдвае тов. Рубіна тое, што ён прабыў у ЦРК толькі 2 дні і, бязумоўна, ня мог высьветліць усіх недахопаў.

І толькі праз 7 месяцаў, у 1928 г., пасьля самагубства старшыні Добрускага ЦРК Чыжэўскага, быў зроблен Гомельскай АКК РСІ агляд цэрабкопу, дзе было выкрыта шмат такіх недахопаў, як скрыўленьне клясавай лініі, засьмечанасьць апарату чужым элемэнтам, разлажэньне апарату, самазабесьпячэньне, склочніцтва, кумаўство і г. д. Бязумоўна, для БРС Гомельская АКК адчыніла Амэрыку. Каб выйсьці з ствaрыўшагася становішча, распушчаецца праўленьне і абіраецца новае.

Як відаць, разумныя людзі БРС вырашылі, што раз абрана новае праўленьне, то яно будзе па-новаму і працаваць, а таму кіраваць ім таксама непатрэбна. У 1930 годзе БРС зацікавілася, як „новыя“ праўленцы Добрускага ЦРК жывуць, і паслала інструктара наведаць. Інструктар БРС Крылавіцкі, доўга не разьбіраючыся, знайшоў, што ў „новым“ праўленьні старыя справы, ну, а раз так—распушчаецца зноў праўленьне і абіраецца новае. Вось вам адзін з узораў кіраўніцтва БРС.

Калі думаеце, што другімі цэрабкопамі БРС лепш кіравала, то памыляецеся. У БРС ня было ні сынкоў, ні пасынкаў, усімі роўна Белрабсэкцыя не кіравала.

Возьмем, прыкладна, Мазырскі ЦРК, які да 1930 г. не абсьледваўся БРС і цяпер на яго не зьвярнулі-б увагі, каб мясцовыя органы не распусьцілі праўленьня. Што там знайшоў інструктар, які аглядаў ЦРК? Ня меншыя справы (калі ня большыя), як у Добрушы: скрыўленьне клясавай лініі, сувязь з прыватнікам, засьмечанасьць апарату, растраты і г. д.

Быў зроблен агляд Аршанскага ЦРК у 1929 годзе, праўленьне якога таксама распушчана і аддана пад суд.

Ня думайце, што Добруш, Мазыр, Ворша—„козлы отпущения“; гэта будзе памылкова. І ў астатніх цэрабкопах справа стаіць таксама ня лепш.

Вось вам узоры кіраўніцтва БРС.

Цяпер толькі застаецца запытаць, дзе былі вочы прэзыдыуму БРС.

Сацспаборніцтва ў сыстэме адсутнічае, кіраўніцтва з боку аргаддзелу ніякага ня было, за выключэньнем бюракратычнай пастановы прэзыдыуму па гэтым пытаньні ад 4 мая 1929 году, у якім прапануецца ўсім цэрабкопам распачаць сацспаборніцтва—установа з ўстановай. Ні слова няма ў гэтай пастанове аб разгортваньні сацспаборніцтва паміж працаўнікамі ЦРК, пры чым у гэтай пастанове зроблена агаворка, што больш чым па чатырох галінах працы сацспаборніцтва ня весьці.

Арганізацыйныя нарады рабочай каапэрацыі ня склікаліся з 1928 году, у той час як гэты мэтад (магчымы мэтад) кіраўніцтва і абмен вопытам у працы ЦРК вельмі патрэбен.

Растраты па ЦРК, замест зьмяншэньня, за 28-29 г. значна павялічваюцца. Так, калі ў 27-28 г. растрат было 6,2 тыс. руб., то ў 28-29 г. іх было 37,6 тыс. руб., што дае рост растрат на 606 проц. у параўнаньні з 1927-28 г.

Прафіляктычнай працы па барацьбе з растратамі ніякай не вялося (у чым прызнаецца сама БРС у сваім абежніку ад 29 году) і толькі пасьля таго, як здарылася некалькі буйных растрат (у Барысаўскім, Аршанскім, Добрускім ЦРК), толькі тады (у 29 г.) быў напісаны абежнік усім ЦРК. Ну, а зараз БРС ізноў супакоілася. Адпачывае ад працы, змарылася.

Д. Ваўкавіцкі

# Рацмінімум у сельскім сэктары спажыўкаапэрацыі

Падлічваючы вынікі праробленае працы па выкананьню рацмінімуму, трэба канстатаваць, што гэта важная задача на сёньняшні дзень яшчэ не ўсьвядомлена большасьцю акруговых саюзаў і спажывецкіх таварыстваў.

Матар'ялы досьледу Полацкага аддзяленьня паказваюць, што пытаньням рацыяналізацыі і паляпшэньня абслугоўваньня спажыўца не аддаецца належнае ўвагі. Досыць зазначыць на такія факты, калі бедняком і калгасьнікам даводзілася хадзіць за 15 вёрст для атрыманьня пуда мукі. Да гэтага часу нашы каапэрацыйныя арганізацыі ня здолелі дэталёва прапрацаваць пытаньне аб пабудове крамнае сеткі, да гэтага часу ня зьнішчана недарэчнасьць, калі крамы групуюцца ў цэнтры, дзе знаходзіцца праўленьне спажывецкага т-ва.

Надзвычайна недарэчна, калі ў Дрысенскім раёне, Полацкае акругі, усе крамы згрупаваны ў трох пунктах, а ўнутры раёну ёсьць толькі 5 крам.

Такое становішча наглядаецца і ў астатніх раёнах. Усё гэта гаворыць за тое, што да практычнага выкананьня рацмінімуму большасьць райсаюзаў і спажывецкіх таварыстваў падыйшлі па чыноўніцку, і рацмінімум у гэтых арганізацыях не атрымаў належнага месца.

Справа забесьпячэньня таварамі асобных крам пастаўлена вельмі дрэнна. Няма цьвёрдых каэфіцыэнтаў разьмеркаваньня дэфіцытных тавараў паміж паасобнымі крамамі. Асноўныя дэфіцытныя тавары, па-першае, заўсёды трымаліся ў цэнтральных крамах, дзе ствараліся надзвычай вялікія чаргі, а па-другое, прымушалі хадзіць спажыўца за 10-15 вёрст для атрыманьня дэфіцытных тавараў. Так, у Дрысенскім раёне манныя крупы адпушчаліся па рэцэптах і толькі з цэнтральных крам. Такім чынам, даводзілася хадзіць некалькі вёрст, стаяць у чарзе за атрыманьнем 100-200 грам. манных круп.

Няма цьвёрдае сыстэмы і цьвёрдых норм разьмеркаваньня дэфіцытных тавараў. У Полацкай акрузе давялося спаткацца з такімі фактамі, калі спажывецкія таварыствы ўжывалі розныя мэтады і нормы выдачы тавараў спажыўцом. У кожным таварыстве іншы мэтад: ў адным даюць 2 пачкі тутуну, ў другім – 4 пачкі, а ў трэцім—зусім інакш.

Разьмеркаваньне тавараў у крамах яскрава нездавальняючае: няма пэўнай сыстэмы. Тавары ў крамах раськіваны. Адсюль мы маем вялікія памеры браку і псаваньня. У Ветрынскім раёне ў цэнтральных крамах абутковыя і скураныя аддзелы знаходзяцца разам з бакалейным, загадвае адна асоба. У абутковым аддзеле няма нават зэдля, на якім спажывец мог-бы прысесьці для прымеркі, прымяраць даводзіцца стоячы і таўхаць людзей, якія стаяць у чарзе.

Да гэтага часу ня створаны пералом у справе суадносін працаўнікоў прылаўку са спажыўцамі. Адносіны да спажыўцоў самыя дрэнныя. У Дрысе ўжываецца такі мэтад: калі працаўніку прылаўку спажывец робіць заўвагу, ён адразу выганяе ўсіх з крамы, зачыняе яе і цягне таго спажыўца ў праўленьне.

Якаснае абслугоўваньне дрэннае. Не ва ўсіх крамах ёсьць прэйскуранты і ярлыкі. Крамы ня ўбіраюцца, тавары запылены.

Усім гэтым недарэчнасьцям трэба пакласьці канец, трэба сур'ёзна ўзяцца за справу паляпшэньня абслугоўваньня спажыўца. Для ўдзелу ў праpрацоўцы усіх гэтых пытаньняў трэба шырока прыцягваць батрацкабядняцкую масу, каапэрацыйны актыў і чаго-б то ні каштавала дамагчыся рэальных вынікаў.



# Перавыканаць прамфінплян

М. П—скі

## Фінансавы плян ЦРК пад пагрозай зрыву

Прэзыдыум Белрабсэкцыі адзначыў, што рабочая сетка каапэрацыі вельмі мала прарабіла па выкананьню плянаў, збору паёў, укладаў і авансаў.

Так, па збору паёў плян першага паўгодзьдзя рабочай сеткай выкананы толькі на 23,2 проц., пры чым асабліва дрэнна выканалі гэтыя пляны Полацкі і Аршанскі ЦРК.

Па збору авансаў і ўкладаў ЦРК нічога ня робяць, у выніку чаго ўся сума ўкладаў і авансаў на 1 красавіка складае толькі 46.100 р.

Недапушчальны тэмп выкананьня плянаў прывёў да поўнага зрыву фінансавага пляну па ЦРК (недабор толькі па паёх складае 800 тысяч рублёў).

Па збору мэтавых узносаў насельніцтва на капітальнае будаўніцтва зусім нічога ня зроблена. Цэрабкопы нават і ня браліся за гэтую работу.

Зараз прэзыдыум Белрабсэкцыі пастанавіў прыняць шэраг рашучых мер для ўзмацненьня гэтай работы.

На рабоце па збору сродкаў трэба сканцэнтраваць увагу грамадзкасьці.

Трэба хутка выявіць канкрэтныя прычыны такіх нядбайных адносін да збору сродкаў і вінаватых прыцягнуць да суровай адказнасьці.

Аўрунін

## Прамкаапэрацыя ў барацьбе за прамфінплян

З пачатку бягучага справаздачнага 29-30 г., згодна пастановы СНК, прамкаапэрацыя залічана ў агульны плян гаспадаркі ўсяго Саюзу.

Такое становішча зьмяніла цалкам погляд на яе. Раней прамкаапэрацыя атрымлівала толькі тую сыравіну, якая заставалася ад дзяржаўнай прамысловасьці, у гэтым годзе прамкаапэрацыя, як частка агульнай гаспадаркі краіны, атрымае сыравіну ў плянавым парадку. Таму ад прамысловай каапэрацыі патрабуецца, каб яна працавала строга па пляну і поўнасьцю выконвала яго.

Трэба сказаць, што плянавасьць прамысловай каапэрацыі мае асаблівае значэньне, бо яна зьяўляецца гаспадаркай ня з буйных фабрык і заводаў, а з шэрагу дробных адзінак вытворчасьці (напрыклад, у Гомельскім саюзе да 170 адзінак, а таксама з розных галін прамысловасьці, да 33 назваў), і таму складаньне самога пляну, давядзеньне яго да варштату, увязваньне яго з усімі пытаньнямі жыцьця вельмі цяжка. Калі мы паглядзім што, з аднаго боку, кожная адзінка-арцель зьяўляецца ў сваёй працы самастойнай гаспадаркай, а з другога боку, поўнасьцю залежыць ад кантынгентаў забесьпячэньня прамтаварамі, якія ў вялікай сваёй частцы атрымліваюцца ня ў вытворчых гатунках, дык пры самай максымальнай увазе цяжка прадугледзець прарывы.

Вось дзякуючы гэтаму вельмі цікава пазнаёміцца з прамфінплянамі яго выкананьнем па Гомельскаму Сампрамсаюзу. Кантрольныя лічбы, якія зацьверджаны Гомельскім Акрплянам, яшчэ ў ліпені леташняга году карэктаваны цэнтрам і дасланы для выкананьня ў лютым гэтага году, бо фактычна цэнтр толькі ў канцы сьнежня скончыў умову з Лесбелам на ляс-

ную сыравіну, і таксама да таго часу зацьверджаны кантынгенты па прамтаварах ад ВКС і ВТС і інш. Аднак у агульных лічбах плян складаецца ў 10500 тысяч да 11000000, і вось цікава выкананьне пляну па Гомельскаму Сампрамсаюзу.

Пры ацэнцы вынікаў трэба мець на ўвазе, што разам з плянам вытворчасьці праводзіцца плян павялічэньня колькасьці арцеляй і сяброў, а гэта значыць, што сярэдняе выкананьне пляну паквартальна ў прамкаапэрацыі немагчыма, але выкананьне павінна быць паступовым. Практыка мінулых гадоў дае паказальнікі, што ў першым квартале выконваецца каля 16 проц. гадавога пляну, у другім квартале—каля 21 проц, у 3-м—каля 30 проц. і ў 4-м—каля 33 проц.

І вось у такой паступовасьці можна разглядаць і даваць ацэнку выкананьню пляну і працы па прамкаапэрацыі.

Паказальнікі за першы квартал далі адмоўныя вынікі. Усяго ў першым квартале выканана 14 проц. гадавога пляну, гэта значыць, што прарыў вызначаецца невыкананьнем 2 проц. Гэта бясспрэчна, не бяручы пад увагу аб'ектыўных выпадкаў. З боку грашовага аддзелу своечасова было сыгналізавана, былі сазваны старшыні буйных арцеляй, і, па высьвятленьні становішча, было ім прапанавана ўжыць рашучыя меры, каб зьнішчыць прарыў, і вось за 2-гі квартал выканана $23^1/_2$ проц. гадавога пляну, а гэта азначае, што прарыў зьнішчаны, праца палепшылася.

За красавік, паводле папярэдніх лічбаў, выканана 10 проц. гадавога пляну, гэта значыць, што можна чакаць, што 3-і кварт. дасьць той проц., які па пляну прадугледжаны, але тут трэба зьвярнуць увагу на другія галіны, на грашовую, напрыклад: акрплянам і мясцовым аддзяленьнем Дзяржбанку зацьверджаны ліміт на 3-і кварт. у 800 тысяч руб. пры ўмовах выпрацоўкі ў месяц на каля 800 тысяч рублёў; яскрава, што пры павялічэньні зваротаў да 1 мільёну таксама трэба павялічыць ліміт, але па загаду Белканторы ён зьменшаны да 775 тысяч. І вось з гэтага боку, незалежна ад вытворчага выкананьня прамфінпляну, магчыма грашовае становішча адаб'ецца на працы.

З боку давядзеньня пляну да варштату ёсьць наступныя вынікі: у другім і 3-м кварталах арцелі самі складалі прамфінпляны, але яны ў жыцьцё праведзены толькі пасьля складаньня агульнага пляну па Саюзу, бо фактычна гэты 2-і квартал меў характар знаёміць арцелі, як складаць пляны, і трэба лічыць, што на 30-31 г. будзе поўная сувязь паміж складзенымі прамфінплянамі нізоўкі, якія будуць пракарэктаваны саюзам на падставе кантрольных лічбаў, зацьверджаных рэспубліканскім цэнтрам і прамфінплянам Саюзу.

Такім чынам з боку плянавасьці па Гомельскаму саюзу ўсе патрэбныя меры ўжыты своечасова.

**Рафальсон**

## За перавыкананьне прамфінпляну прамкаапэрацыі БССР

Выдадзеная пастанова ЦК УсеКП(б) у лютым месяцы гэтага году выразна і яскрава вызначае шляхі разьвіцьця прамкаапэрацыі на бліжэйшы час.

У сваёй пастанове ЦК высоўвае наступныя асноўныя задачы прамкаапэрацыі:

1) перанесьці цэнтр цяжару работы на промыслы, якія працуюць на мясцовай недэфіцытнай сыравіне;

2) ва ўзаемаадносінах з дзяржаўнай прамысловасьцю выходзіць з неабходнасьці разгортваньня промыслаў, арганічна зьвязаных з дзяржаўнай прамысловасьцю агульным цыклем вытворчага працэсу (дапрацоўка, аздоба, зборка вырабаў, якія выпрацоўваюцца дзяржаўнай прамысловасьцю і г. д.);

3) на працягу 1930 г. вытворча каапэраваць усіх саматужнікаў у калгасах;

4) перавыканаць кантрольныя лічбы на 1929-30 год па ўцягненьню ў прамкаапэрацыйную сыстэму неарганізаваных саматужнікаў і рамесьнікаў.

Гэта пастанова ЦК УсеКП(б) ускладае на саматужна-прамысловую каапэрацыю задачы вялікай важнасьці.

Уцягваньне ў сыстэму бядняцкіх і серадняцкіх мас саматужнікаў і беспрацоўных, праводзячы чыстку сыстэмы ад сацыяльна чужых капіталістычных элемэнтаў, зьяўляецца аднэй з галоўных задач, якія стаяць перад сыстэмай прамкаапэрацыі БССР.

У справе ўцягненьня ў сыстэму новых бядняцка-серадняцкіх пластоў саматужнікаў і беспрацоўных сыстэма прамкаапэрацыі БССР мае некаторыя дасягненьні.

Так, лік каапэраваных сяброў арцеляй (вытворчае каапэраваньне) узрос з 10.957 чалавек на I/X-28 году да 19.425 чалавек на I/I-30 году, ці на 77%. Папярэднія дадзеныя на I/IV-30 году даюць павялічэньне ліку каапэраванных у арцелі за I квартал яшчэ на 2.400 чал. і, такім чынам, за паўтара гады ўцягнуты ў сыстэму новых 10.000 ч. у асноўным з бядняцка-серадняцкіх мас саматужнікаў.

Аднак, уцягненьне новых 10.000 чал. у сыстэму прамкаапэрацыі БССР, улічваючы вялізарныя задачы, якія пастаўлены перад ёю партыяй і ўрадам, зьяўляецца зусім недастатковым, аб чым кажуць наступныя лічбы:

Па прамфінпляну на 1929-30 год лік сяброў арцеляй намечана давесьці да канца году да 33.354 чал.

Такім чынам, прамфінплян вызначае нанова ўцягнуць у арцельнае зьвяно сыстэмы 15.267 чалавек, між тым першы квартал дае павялічэньне ліку каапэраваных у арцелі ўсяго на 1.338 чалавек, што дае выкананьне гадавога пляну каапэраваньня ўсяго на 8,8 проц.

Калі прасачыць выкананьне пляну каапэраваньня асобна ў галіне промыслаў, якія працуюць на прывознай (дэфіцытнай) сыравіне і мясцовай (недэфіцытнай) сыравіне, то атрымаем наступны малюнак: у той час, як плян каапэраваньня па дэфіцытных промыслах выкананы за першы квартал у разьмеры 23,1 проц., выкананьне па недэфіцытных промыслах дае 5,3 проц. Для ілюстрацыі дамо некалькі лічбаў.

Па прамфінпляну вызначана зноў каапэраваць за 1929-30 год у арцелі дэфіцытных промыслаў 3424 чал., каапэравана за першы квартал 708 чалавек, выкананьне, як відаць, з невялікім адставаньнем ідзе ў ногу з прамфінпланам.

Зусім другое мы маем у частцы недэфіцытных промыслаў. Замест 11.843 чалавек, вызначаных да ўцягненьня на 1929-30 год, уцягнута за першы квартал усяго 630 чалавек.

Такім чынам, калі нават улічыць, што разьвіцьцё арцеляй па выпрацоўцы будаўнічых матар'ялаў (недэфіцытны промысел) толькі пачнецца з канца другога кварталу, дык ход выкананьня прамфінпляну за першае паўгодзьдзе бягучага году стварае пагрозу яго зрыву, аб чым нам кажуць лічбы агульнага выкананьня пляну каапэраваньня за першы квартал 1929-30 г., на 8,8 проц. і ў галіне недэфіцытных промыслаў на 5,3 проц.

Другое баявое заданьне прамкаапэрацыі—накапленьне ўласных сродкаў у сыстэме - ня выконваецца.

Заданьне ўраду сабраць на 1929-30 г. у арцельным зьвяне сыстэмы 1 міл. 890 тысяч рублёў паявых узносаў выканана за першае паўгодзьдзе бягучага году ў разьмеры 20,9 проц.

Такія-ж прарывы маюць месца ў выкананьні прамфінпляну па другіх яго паказальніках.

Патрэбна біць трывогу.

Неабходна мабілізаваць увагу ўсяго бядняцка-серадняцкага актыву сыстэмы вакол выкананьня і перавыкананьня прамфінпляну на 1929-30 год.

Патрэбна напружыць усю моц сыстэмы на тое, каб на 1929 год ня толькі быў выкананы прамфінплян на ўсе 100 проц., але і выканана была пастанова ЦК УсеКП(б) аб перавыкананьні кантрольных лічбаў каапэраваньня на 1930 год.

Прамфінплян на 1929-30 год павінен быць выканан, што-б там ні было.

Я. Левінсон

# Мабілізацыя сродкаў па спажыўсыстэме Беларусі

Пастаўленая перад спажыўсыстэмай задача разгортваньня свае гаспадаркі на падставе паступовага вызваленьня сродкаў, якія прыцягваліся ёю з іншых аграмаджаных сэктараў народнай гаспадаркі, высоўвае ва ўсю шырыню шэраг фінансавых мерапрыемстваў, з якіх на першым месцы стаяць пытаньні мабілізацыі сродкаў насельніцтва і мабілізацыі рэсурсаў самой сыстэмы.

Як жа абстаіць справа ў гэтым напрамку па спажыўсыстэме БССР?

Асноўная прычына гэтага прарыву ў нашай інэртнасьці, у нашай спагадзе на самацёк. Мы яшчэ ўсё працуем у гэтым напрамку пастарынцы. Мы перадалі такую важную справу, як мабілізацыя сродкаў насельніцтва, у рукі прыказчыка і на гэтым супакоіліся. Ніякай сапраўднай працы ў галіне ўцягненьня пайнікаў-укладчыкаў мы не вядзем, ніякай грамадзкасьці вакол гэтай працы мы не прыцягнулі. Нават тыя лёзунгі і плякаты, якія пасылаліся на месцы, у большасьці



Цестамясільны цэх хлебапякарні Аршанскага ЦРК

Трэба сказаць, што кепска мы выконваем гэтыя задачы.

Плян збору паёў, якія зьяўляюцца асноўнай крыніцай мабілізацыі сродкаў насельніцтва, выконваецца больш чым дрэнна: за першае паўгодзьдзе мы выканалі толькі 62,7 проц. пляну (70 проц. па вясковай і 42,9 проц. па гарадзкой сетцы). Гэта ўжо ня проста невыкананьне, а гэта поўны прарыў у пляне.

Яшчэ горш справа з укладамі і авансамі. За паўгодзьдзе мы амаль што не пасунуліся з месца—548,7 т. рублёў на 1-е кастрычніка 1929 г. і 648,6 т. рублёў на 1-е красавіка 1930 г.

самым супакойным чынам ляжаць на складах, а ў лепшым выпадку—пад прылаўкамі ў крамах на вёсках.

Характэрна, што амаль ні ў воднай краме нашага буйнейшага ЦРК—Менскага—ня ўбачыш лёзунгу ці плякату аб прыёме ўкладаў, авансаў.

Няма ніякага сумненьня, што па меншай меры 90 проц. пайнікаў ЦРК ня ведаюць нават, што цэрабкоп прымае ўклады.

Абсьледваньні паасобных акруг паказваюць, што ўкладныя маркі і карткі не скарыстоўваюцца, што шмат спажыўтаварыстваў не атрымліваюць

іх ад саюзаў, што саюзы ня цікавяцца пастаноўкай гэтай справы на месцах.

Вось прычыны тых нікчэмных вынікаў, якія мы маем у гэтай галіне. А між тым мы маем паказальнікі, якія сьведчаць, што пры добрай працы можна атрымаць вельмі добрыя посьпехі ў гэтай справе. Так, пры скарыстаньні ўкладных марак і картак адно спажыўтаварыства Гомельскай акругі сабрала каля 800 р. дробнымі ўкладамі ў кароткі час; Шацкае спажыўтаварыства Менскай акругі, якое ўзялося больш-менш сур'ёзна за гэту працу, на працягу паўгодзьдзя давяло астачу ўкладаў да 3000 рублёў.

Але ўся бяда ў тым, што мы ніяк ня можам раскачацца, а можа і зусім ня хочам. Навошта займацца такімі дробязямі? Райсаюз не апратэстуе вэксалі, як-небудзь выцягне. А цяпер яшчэ лепш: вэксалёў няма— няма і страху перад натарыусам. А саюз і ЦРК у сваю чаргу спадзяюцца на багатага дзьдзьку—дзяржбанк.

У сапраўднасьці-ж гэта ня так: момант крэдытнай рэформы ня толькі не вызваляе нас ад абавязкаў мабілізацыі сродкаў насельніцтва, але, наадварот, павялічвае нашу адказнасьць за гэту справу. Праўда, вэксалёў няма, але ёсьць плян, і невыкананьне пляну прывядзе не да лепшых вынікаў, чым апратэставаньне вэксалю.

Трэба адкінуць усякія надзеі на чыю-небудзь дапамогу, трэба самім праявіць ініцыятыву і разгарнуць справу мабілізацыі сродкаў насельніцтва на базе прыцягненьня ўсяе партыйнай, прафэсіянальнай і савецкай грамадзкасьці. Ня лепш, а можа і горш абстаіць справа з мабілізацыяй рэсурсаў самой сыстэмы.

Калі ў справе паянамнажэньня нам дапамагае самацёк, дык у справе мабілізацыі рэсурсаў унутры гаспадаркі самой сыстэмы бяз узьдзеяньня самой сыстэмы ніяк не абыйсьціся. А ў гэтым напрамку мы яшчэ больш павінны, чым у справе прыцягненьня сродкаў насельніцтва. Тыя-ж балячкі, якія існавалі ў сыстэме шмат гадоў назад, існуюць і цяпер, мы амаль што нічаму ў гэтым не навучыліся за ўсе гады: тое-ж разбазарваньне сродкаў па дэбіторах, растраты, усушкі, утрускі, нехадавыя тавары і іншыя артыкулы нашых балянсаў.

Тая барацьба са стратамі, якая ўзварухнула ўсе галіны народнай гаспадаркі, прайшла, мінаючы сыстэму спажыўкаапэрацыі, як быццам гэта нас ня тычыцца, як быццам у нас тут усё добра, усё гладка, і мы можам сьмела працаваць.

А між тым, ня ўсё спакойна ў нашай гаспадарцы: астачы тавараў растуць, шмат тавараў ляжаць гадамі, і мы ніяк ня можам адважыцца на зьніжэньне цаны, на распродаж са скідкай, хоць страты ад гэтага былі-б менш, чым проценты, якія мы плоцім за гэты мёртвы капітал. Тара ідзе на апал, і мы ніяк не дадумаемся да лепшага мэтаду яе скарыстаньня; дэбіторы (растраты, заборшчыкі) растуць, ніхто за гэтым ня сочыць: стаяць на балянсе, ну і няхай сабе стаяць. А сума іх немаленькая: па аднэй сельскай нізоўцы каля 2-х мільёнаў рублёў.

Да гэтага часу саюзы яшчэ ня толькі не лімітуюць асобныя артыкулы балянсу нізоўкі, але па некаторых акругах не ўстанаўліваюць нават і ліміту запазычанасьці тае ці іншае нізоўкі саюзу.

Нізоўка, як правіла, а часта і сам Р.С. і ЦРК не складаюць гандлёва-грашовых плянаў, а калі складаюць, дык не правяраюць іх.

У выніку гэтай бескантрольнай працы зьяўляюцца прарывы, грашовыя крызісы.

Неабходна ўсяму гэтаму пакласьці канец; неабходна павесьці рашучую барацьбу за плянавае вядзеньне каапэрацыйнай гаспадаркі, паставіўшы пытаньне мабілізацыі сродкаў, пытаньне барацьбы са стратамі.

**Арк. Верас**

# Арганізацыя прыгарадных гаспадарак праходзіць кепска

Паводле пляну Белрабсэкцыі цэрабкопы БССР павінны гэтай вясной арганізаваць гародныя прыгарадныя гаспадаркі на агульнай плошчы ў 1300 га і засеяць яе рознымі гароднымі культурамі, каб палепшыць такім чынам забесьпячэньне рабочых раёнаў гароднінай. Адпаведна патрэбам і магчымасьцям кожны ЦРК атрымаў канкрэтнае заданьне ў арганізацыі гэтых гаспадарак.

Як жа сапраўды спраўляецца рабочая каапэрацыя з гэтай задачай? Апошнія весткі, якія ёсьць у Белкаапсаюзе, сьведчаць аб тым, што, ня гледзячы на даволі ўжо позьні час, плян арганізацыі гаспадарак яшчэ ня выкананы і пры тым становішчы, якое мы назіраем на месцах, бадай ці будзе выкананы. Замест 1300 га апрацована пад гароды толькі 700 га. Некаторыя ЦРК зусім правальваюць гэту справу.

Вось дадзеныя:

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Віцебскі | ЦРК | замест | 200 | га | апрацаваў | .... 15 | га |
| Аршанскі | „ | „ | 100 | „ | „ | .... 10 | „ |
| Гомельскі | „ | „ | 200 | „ | „ | .... 100 | „ |
| Бабруйскі | „ | „ | 100 | „ | „ | .... 65 | „ |
| Магілеўскі | „ | „ | 100 | „ | „ | .... 25 | „ |

Такое становішча тлумачыцца абсалютна недастатковай ініцыятывай і настойлівасьцю з боку асобных ЦРК у пытаньні атрыманьня прыгарадных зямель, а таксама недастатковай увагай да гэтага пытаньня мясцовых гарадзкіх саветаў. Апошнія ў большасьці для арганізацыі прыгарадных гаспадарак адвялі або землі працоўнага карыстаньня сялян, якія пасьля прышлося зьвярнуць, або зусім нягодныя для асваеньня пад гароды. Такія факты мы маем у Гомлі, Бабруйску, Магілеве і інш.

Сеў у гародных гаспадарках ЦРК ужо пачаўся, але праходзіць вельмі марудна. На 5/V г. г., паводле дадзеных ЦРК, засеяна рознымі культурамі 398,5 га. Асабліва адстаюць у сяўбе Барысаў, Ворша, Менск, Полацак. Становішча пагражаючае. Яшчэ тэрміны засеву ня зусім прапушчаны, і ёсьць магчымасьць скарыстаць цэлы рад прыгарадных зямель. Неабходна толькі сканцэнтраваць увагу як цэрабкопаў, так і Белрабсэкцыі на поўным выкананьні вызначанага пляну.

Кепска таксама стаіць справа і з арганізацыяй малочных фэрм і адкормачных пунктаў.

Малочныя фэрмы да гэтага часу не ўкамплектаваны. Значная частка жывёлы, якая ёсьць, зьяўляецца непрадукцыйнай жывёлай, што не дае таго эфэкту, які павінна даць малочная фэрма. Як паведамляюць з Віцебску, на арганізаванай фэрме ёсьць 420 кароў (замест 1000 па заданьню), якія на 60 проц. бракованыя,; худыя, нікуды нявартыя. Удой малака ад іх у суткі—4-5 літраў. У Барысаве тое самае. Закуплена 300 галоў (замест 500 па пляну), але бракованых таксама да 50 проц. Адсутнічаюць канцэнтраваныя кармы: няма высевак, макухі, сена таксама бракуе. Становішча пагражаючае. Магілеўцы, пакуль сабраліся арганізаваць фэрму, дык упусьцілі ўсю добрую жывёлу. Закупілі толькі 55 штук, замест 100. Вось якое становішча з арганізацыяй малочных фэрм. Ці будзе забясьпечана рабочае насельніцтва малаком пры такіх „посьпехах“ асобных цэрабкопаў? Вядома, што не, калі не зрабіць захадаў да паляпшэньня справы.

Неабходна паставіць перад адпаведнымі органамі пытаньне аб паляпшэньні якасьці кароў, якія ўліваюцца ў арганізуемыя малочныя фэрмы, як шляхам больш дасканалага адбору нарыхтоўчымі арганізацыямі, так і шляхам прывозу з-за межаў БССР.

У арганізацыі сьвінаадкормачных пунктаў таксама шмат недахопаў і злачынных адносін да пастаноўкі іх працы. Мала таго, што шмат ЦРК ня выканалі заданьне, дык яшчэ ў цэлым

шэрагу ЦРК значная колькасьць сьвінамесц на адкормачных пунктах пустуе; за сьвіньнямі нікуды ня варты дагляд, кепскі вэтэрынарны нагляд і інш.

Так, Віцебск мае сьвінаадкормачную базу на 700 галоў, а на адкорме ёсьць усяго толькі 400 галоў і 80 парасят, пустуе 300 месц. У Барысаве база на 1000 месц, а пастаўлена на адкорм усяго 550 шт., пустуе 450 месц. У Магілеве база на больш чым 1000 месц, а ёсьць усяго 540 галоў. І так у многіх цэрабкопах. Горш за ўсё тое, што з-за кепскага дагляду за сьвіньнямі і адсутнасьці саннагляду ў некаторых ЦРК ёсьць даволі частыя выпадкі захварэньня і здыханьня сьвіней (Барысаў, Магілеў, Гомель). У Гомлі, напрыклад, сьвіньні доўгі час стаялі пад адкрытым небам, пад дажджом у вялікі холад.

Ніводзін цэрабкоп, пры значнай колькасьці жывёлы, ня мае спэцыяльнага вэтурача. Мясцовыя вэтэрынарныя сілы для барацьбы з эпідэміяй на сьвінаадкормачных пунктах прыцягнуты не ў дастатковай ступені. Між тым сваячасовае папярэджаньне хвароб шляхам камбінацыйнай прышчэпкі зьнішчыла-б эпідэмічныя захворваньні і зьменшыла б процант захворваньня жывёлы іншымі хваробамі. На гэта трэба зьвярнуць належную ўвагу.

Папаўненьне сьвінаадкормачных пунктаў ідзе вельмі кепска. Райсаюзы ня выконваюць дырэктыву праўленьня Белкаапсаюзу аб паскарэньні здачы цэрабкопам сьвіней як з агульных загатовак, так і з сьвінаадкормачных пунктаў сельскіх мясцовасьцяй. Трэба рашуча ўдарыць па тых, хто зрывае гэту справу.

Надзвычайна цяжкае становішча з будаўніцтвам прыгарадных гаспадарак, фэрм, адкормачных пунктаў, гароднягавалень і інш. Амаль ва ўсіх ЦРК адсутнічаюць будаўнічыя матар'ялы. Як паведамляюць з Барысава, з-за адсутнасьці цьвікоў, жалеза і цэлага раду іншых будаўнічых матар'ялаў нельга скончыць нават тыя пабудовы, што пачаты. Калі ня здолеюць хоць бы ў мінімальнай колькасьці дастаць матар'ялаў, сарвецца будаўніцтва. Віцебскі ЦРК пабудаваў ужо адну гародняхавальню. Трэба распачынаць пабудову другой гародняхавальні і памяшканьня для адкормачнай базы, а будаўнічых матар'ялаў няма. Ворша і Магілеў ня могуць распачаць будаўніцтва з-за недахопаў грошай на будаўніцтва. Гомель распачаў-бы будаўніцтва, дык будаўнічы аддзел БКС усё яшчэ не прадставіў каштарысу і праекту будаўніцтва.

Наогул становішча з арганізацыяй прыгарадных гаспадарак нездавальняючае Мы катэгарычна патрабуем ад цэрабкопаў палепшаньня справы і поўнага выкананьня плянавых заданьняў па арганізацыі прыгарадных гаспадарак.

**Агонь бальшавіцкай самакрытыкі па вінавайцах прарыву ў рабочым забесьпячэньні**

# Рабочае забесьпячэньне на агляд

С. В.

## З грамадзкім харчаваньнем дрэнна

(*Што робіцца ў Гомлі*)

Брыгады па агляду грамадзкага харчаваньня ў Гомелі прыступілі ўжо да працы і на практыцы паказалі сваю непадрыхтаванасьць да гэтай справы, незнаёмства з мэтамі і задачамі агляду, а таксама і няведаньне сваіх функцый.

У некаторых выпадках брыгады па агляду выступалі ў ролі адміністратараў, яны хацелі зьняць з працы некаторых работнікаў сталовак. у сталоўцы № 1 брыгада забараніла пячы прыгодную для ежы рыбу, і рабочым прышлося чакаць сьнеданьня каля дзьвёх гадзін. Асобныя брыгадзіры самі ідуць на кухню, чапаюць рукамі прадукты, грубяць працаўніком сталовак. Брыгады ў цэлым вядуць агляд толькі пытаньнямі, здавальняючыся адказамі на іх. Яны не стараюца дайсьці да справы забесьпячэньня сталовак прадуктамі і якасьці іх, санітарнага становішча сталовак і абсталяваньня. Брыгады зусім не займаюцца пытаньнем пастаноўкі выхаваўчай і культмасавай працы сярод калектываў сталовак, пытаньнем падрыхтоўкі кваліфікаванай рабочай сілы, зусім не зьвяртаецца ўвагі на дэфэкты ў працы і жыцьці асобных сталовак і іншыя ненармальныя зьявы.

Характэрна адзначыць адносіны праўленьня транспартна-спажывецкага таварыства да агляду грамадзкага харчаваньня. Маючы цэлы шэраг сталовак і буфэтаў, праўленьне палец аб палец ня стукнула для папулярызацыі задач агляду, ня ставіла нават гэтага пытаньня на абгаварэньне агульнага сходу супрацоўнікаў, не распрацавала яшчэ да гэтага часу канкрэтнага пляну ўдзелу ў аглядзе. Аргаддзел транспартнага спажывецкага таварыства бездапаможна чапляецца за „аб'ектыўныя ўмовы". Праўленьньне трансп. спаж. т-ва займаецца больш камэрцыяй, дзяляцтвам, толькі ня пытаньнем грамадзкага харчаваньня. Праца ў сталоўках і буфэтах транс. спаж. т-ва да гэтага часу яшчэ не рацыяналізавана; рабочы дзень яшчэ ня ўшчыльнены. Клюбы не павярнуліся яшчэ тварам да агляду, яны ніяк ня могуць прыстасавацца да новых ўмоў і патрабаваньняў агляду, яны ня хочуць ведаць аб тым, што грамадзкае харчаваньне набывае зараз выключнае значэньне. У аглядзе грамадзкага харчаваньня, здавалася-б, павінны былі прыняць асаблівы ўдзел групы „лёгкай кавалерыі", але яны да гэтага часу бязьдзейнічаюць. Раённы штаб „лёгкай кавалерыі" таксама бязьдзейнічае. Канкрэтных пляну працы ў сталоўках няма, як і працоўнай дысцыпліны. Рабочыя выкарыстоўваюцца нерацыянальна.



Разьліўка абедаў у сталоўцы Гомельскага ЦРК

**Цесната і перагружанасьць выяўляюцца.**

У часе абедаў у сталоўках цесната немагчымая.. За кожным абедаючым стаіць па некалькі кандытатаў на яго месца. Памяшканьні для кухні ў большасьці сталовак непадыходзячыя: столі нізкія, парнасьць і чаднасьць, вэнтыляцыі няма. У пасудамыйках цесната, з прычыны чаго павялічваваецца колькасьць бітае пасуды. Перагружанасьць сталовак, непрыстасаванасьць памяшканьняў, адсутнасьць кваліфікаванай рабочай сілы, а адгэтуль няўмелае абслугоўваньне наведвальнікаў—вось „аб'ектыўныя" прычыны дрэннага становішча грамадзкага харчаваньня.

Калёрыйнасьць абедаў невыстарчальная. У абедзе бывае ў сярэднім толькі 600 калёрый, замест належачых па норме 800-850, тлушчы ў абедзе ўсяго 10-15 гр. замест належачых 30-35 грамаў. Мэню месяцамі бывае аднолькавым.

Пры разьмеркаваньні дэфіцытных прадуктаў між сталоўкамі ўзьнікаюць вялікія недарэчнасьці. Сталоўкі, якія адпушчаюць па 100-150 абедаў у дзень (№ 5і 6), атрымоўваюць 60 кілё сьмятанкавага масла, а цэнтральныя сталоўкі № 1 і 2, якія прапушчаюць штодзённа па 2000-3000 абедаў, атрымоўваюць толькі па 20 кілё масла. Па асобных сталоўках на тыя-ж самыя прадукты існуюць рознастайныя цэны.

**„На ненармальнасьці не рэагуюць"**

У сталоўцы № 2 няма працдысцыпліны. Пануюць склокі і спрэчкі. Загадчык сталоўкі Патоцкі з прапанованымі рабочых ня лічыцца, з рабочымі абыходзіцца вельмі дрэнна. П'янства, шкодніцтва і рвацтва зьвілі моцнае гняздо ў сталоўках № 1 і 2, і ў кухні-разьмеркавальніку ЦРК.

Старэйшы кухар сталоўкі № 2 Аўхімаў амаль заўсёды зьяўляецца на працу п'яным. Аднойчы, зьявіўшыся на працу п'яным, ён выкінуў у пліту цэлы ліст булачак. У сталоўцы № 1 бясчынствы прымаюць пагражаючыя памеры. Кухар Алейнікаў і рабочы кухні Мяшчанка сыстэматычна псуюць прадукты, наладжваюць папойкі, пасля якіх не зьяўляюцца на работу.

Сярод працаўнікоў сталоўкі наглядаюцца рвацкія настроі. „Штодзённа можна чуць пагрозы афіцыянтаў, што кінуць работу, калі ня прыбавяць разраду. Таксама парвацку дзейнічае частка камсамольцаў і партыйцаў. Больш выдатныя з іх: Махавікоў, Гарнароў і Ліўшыц. Кухар кухні-разьмеркавальніку Чыбіст і рабочы Чайко штодзённа зьяўляюцца на працу п'янымі і прыносяць гарэлку нават на работу. Ненармальнасьці ў сталоўках не ліквідуюцца. Праўленьне ЦРК, партыйныя і прафэсійныя арганізацыі нічога ня робяць у галіне зьнішчэньня гэтых недахопаў. Усе зазначаныя недахопы, ненармальнасьці, шкодніцтва, рвацтва, незацікаўленасьць і расхлябанасьць у рабоце апарату сталовак і іншыя праявы можна выжыць толькі пры актыўным удзеле ў аглядзе грамадзкага харчаваньня ня толькі вылучаных брыгад, але і ўсяе грамадзкасьці.

г. Гомель.

# Пра абслугоўваньне сэзонных рабочых

Па ўсёй Беларусі, як у гарадох, так і ў раёнах, разгортваюцца сэзонныя работы. Галоўныя з іх будаўнічыя работы, у тым ліку і новыя пабудовы ўсесаюзнага значэньня (Асінбуд, фабрыка штучнага шоўку ў Магілеве, цэлулоізны камбінат у Бабруйску), на якіх заняты 63.000 чал., работы па шляхавому будаўніцтву, мэліарацыйныя работы, тарпяныя, тэрпэнтынныя, лесасплаў і інш. Усяго, паводле прыблізных падлікаў, на розных сэзонных работах у бягучым сэзоне будзе занята каля 127.000 чалавек.

На спажывецкую каапэрацыю ўрадавымі органамі ўскладзена задача гаспадарчага і культурна- бытавога абслугоўваньня рабочых, занятых на сэзонных работах. Гэта абслугоўваньне павінна ісьці па лініі сваячасовага забесьпячэньня рабочых неабходнымі прадуктамі і гаспадарчымі прамысловымі таварамі, арганізацыі грамадзкага харчаваньня, задавальненьня культурных патрэб рабочых праз кіно, радыё, кнігу, газэту, ліквідацыю няпісьменнасьці і г. д.

Як жа спажывецкая каапэрацыя ўзялася за выкананьне гэтай задачы?

Трэба сказаць, што гэтае пытаньне яшчэ не знайшло дастатковага практычнага вырашэньня ня толькі на месцах, але і ў цэнтральных арганізацыях, якія зацікаўлены гэтым пытаньнем.

Ня гледзячы на тое, што СНК спэцыяльнай пастановай абавязаў спажыв. каапэрацыю разгарнуць на месцах будаўніцтва сетку крам, ларкоў, палатак, харчавых пунктаў і ахапіць усіх сэзоньнікаў грамадзкім харчаваньнем, БКС сваячасова не падрыхтаваўся да абслугоўваньня сэзоньнікаў. Будаўнічыя арганізацыі не прадстаўляюць сьпісу пунктаў будаўнічых работ, і гэта для Белкаапсаюзу зьяўляецца падставай, каб „не сьпяшацца“ з разгортваньнем практычнай працы па абслугоўваньню.

Аддзел грамадзкага харчаваньня БКС ужо даўно ведаў, што разгортваньне грамадзкага харчаваньня ўпіраецца ў недахоп абсталяваньня і начыньня для сталовак, а між тым ніякіх захадаў ня прыймаў, каб узьняць пытаньне аб вырабе гэтага абсталяваньня.

— Няма абсталяваньня, ну, нічога і ня зробіш,—разважалі таварышы з аддзелу грамадзкага харчаваньня.

Бачыце, ніхто ня прышоў і не прапанаваў БКСаюзу вырабляць абсталяваньне для сталовак. А як высьветлілася ў апошні час, яго можна вырабляць на нашых беларускіх заводах (завод „Камунар“, чыгуначныя майстэрні).

Культаддзел таксама ня зусім падрыхтаваны абслужыць культурныя патрэбы сэзоньнікаў.

Словам, БКС яшчэ да гэтага часу ня мае канкрэтнага пляну па абслугоўваньню сэзонных рабочых. Усё, што зрабіў да гэтага часу БКС, дык гэта якія-колечы фонды тавараў і прадуктаў для гэтай мэты і то недастатковыя. Так, напрыклад, не хапае махоркі 1200 скрынак, алею 100 тон, цукру 29 тон і інш.

Зусім кепска абстаіць справа з задавальненьнем мясам. На мяса атрыманы з Масквы ад „Саюзмяса“ цэнтралізаваны нарад на 1428 тон з выкананьнем з мясцовых загатовак, а „Белмяса“ ня выконвае гэтага нараду.

А што ў гэты час робіцца на месцах?

У Бабруйскай і Менскай акругах сэзоньнікі кідаюць работу, бо каапэрацыя іх не абслугоўвае. На месцах ня могуць адчыніць сталовак з-за адсутнасьці абсталяваньня (Віцебск, Менск). За арганізацыю ларкоў узяліся толькі тады, калі рабочыя выйшлі на работы па будаўніцтву і затрэбавалі прадукты.

Як паведамляюць з Віцебску, нават на буйных пабудовах не адчынены ларкі. ЦРК затрымлівае водпуск

прадуктаў для адчыненых ларкоў. Кепска наладжана дастаўка прадуктаў на месцы будаўніцтва па акрузе: на Абалонцы (Віцебск) ларок зачыняецца на некалькі дзён таму, што каапэратар „адбыў за прадуктамі“ за 40 кілёмэтраў. Бываюць і прастоі з-за таго, што рабочых не забясьпечваюць прадуктамі.

Такім чынам у сэзоньнікаў шмат часу ідзе на клопаты аб харчаваньні, а каапэрацыя ня можа іх забясьпечыць,

Каапарганізацыі ўсё яшчэ „плянуюць“, а практычнага для абслугоўваньня зрабілі яшчэ вельмі мала. Пакуль што абмежаваліся толькі абежнікамі, што трэба абслужыць.

БКС трэба болш аддаць увагі самой пастаноўцы справы арганізацыі абслугоўваньня на месцах. Арганізаваць сетку крам, ларкоў і сталовак так, каб яна забясьпечыла поўны ахоп рабочых і добраякаснае іх абслугоўваньне. Праверыць, як вытвараецца закідка тавараў і прадуктаў на месцы будаўніцтва, каб ня было перабояў у забесьпячэньні, больш зьвярнуць увагі на якасьць абслугоўваньня. Разгарнуць культурную работу па абслугоўваньні кіно, радыё, кнігай, па ліквідацыі няпісьменнасьці.

Задача спажывецкай каапэрацыі— садзейнічаць і дапамагаць выкананьню прамфінпляну, каб рабочы ня траціў марна часу на пакупку харчоў, а поўнасьцю-б аддаўся сацыялістычнаму буданўіцтву.

---

А. Чумак

## Палепшыць абслугоўваньне Мар‘інскага калфонду

Урад БССР, пры дапамозе Саюзу ССР, паставіў перад сабой грандыёзную праблему ператварэньня забалочаных абшараў, якія раскінуты абапал рэк Прыпяці--Арэсы, у культурныя плошчы нашай сельскай гаспадаркі. Тэрыторыя ў 138 000 гэктараў, т. зв. Мар‘інскі масыў, зараз асушаецца і выкарыстоўваецца для інтэнсыфікацыі сельскай гаспадаркі, стварэньня на гэтых масывах буйнай сацыялістычнай сельскай гаспадаркі—саўгасаў, камун і с.-г. арцеляй. На Мар‘інскім масыве зараз ажыцьцяўляецца частка пляну генэральных работ.

На асушаным масыве ўжо арганізаваны саўгас імя 10-годзьдзя БССР, з плошчай у 10 тысяч гэктараў, камуна БВА на плошчы ў 4500 гэктараў і буйны калгас „Кузьмічы“.

На працягу вясны і лета 1930 году на Мар‘інскім калфондзе мяркуецца яшчэ асушыць 5000 гэктараў. Мяркуецца, што на ўсіх работах па асушцы балотных масываў будзе занята ў вясеньня-летні сэзон 1930 г. да 4 500 рабочых.

Вялізарную армію рабочых камунараў і калгасьнікаў у ліку звыш 6.000 чал. спажывецкай каапэрацыі неабходна абслужыць, забясьпечыць ім нармальныя ўмовы працы, таксама трэба абслужыць культурна-бытавыя патрэбы занятых на работах рабочых, камунараў і калгасьнікаў.

Якую-ж увагу ўдзяляла спажывецкая каапэрацыя да гэтага часу такім пытаньням?

Абслугоўваньнем Мар‘інскага калфонду павінна было займацца Любаньскае спажывецкае таварыства. Але бяда ў тым, што яно павінна было займацца гэтай справай, але фактычна не займалася. Інструктарскае абсьледваньне работы т-ва ў галіне абслугоўваньня сацыялістычнага сэктару дало сумныя вынікі.

Да сакавіка м-ца г.г. пытаньню абслугоўваньня рабочых саўгасу ня было ўдзелена спэцыяльнай увагі. Спажывецкае таварыства нават ня

было ні ў якіх дагаворных адносінах з адміністрацыяй саўгасу; для таваразабесьпячэньня рабочых спэцыяльнага каэфіцыэнту не ўстаноўлена, ня прыняты былі меры да забесьпячэньня гаручым трактарнай калёны саўгасу. У арганізацыі грамадзкага харчаваньня і хлебапячэньня ў саўгасе спаж. т-ва праявіла бясплянавасьць свае работы: адсутнічаюць нормы і калькуляцыя сабекошту абедаў. Спаж. т-ва не гарантавана ад перабояў у забесьпячэньні сталоўкі прадуктамі, бо адпаведнага дагавору з адміністрацыяй саўгасу на забесьпячэньне прадуктамі сталоўкі таксама няма.

Зусім слаба вядзецца работа па каапэраваньню рабочых саўгасу. Да 1 сакавіка было каапэравана ўсяго толькі 40 проц. рабочых, з сярэднім паем у 7 рублёў, што таксама недастаткова. Зусім адсутнічае праца па прыцягненьню ўкладаў. Сярод рабочых саўгасаў не праводзілася ніякай работы: рабочыя-пайнікі ня ўцягнуты ў органы кіраўніцтва і кантролю спаж. т-ва, ня было ніякай сувязі з рабачкомам саўгасу. На абслугоўваньне гаспадарчых і культурна-бытавых патрэб рабочых саўгасу Любаньскае спаж.-т-ва зьвярнула зусім недастатковую ўвагу; спаж. т-ва было адарвана ад саўгасу, праўленьне нават ня ў курсе вытворчага пляну саўгасу.

Тое самае і з абслугоўваньнем калгасаў і камуны БВА. Гэтай працы таксама не ўдзялялася спэцыяльнай увагі.

Існуе некаторая недаацэнка палітычнай важнасьці камуны БВА. З самага пачатку ўзьнікненьня камуны спаж.т-ва не зрабіла належных захадаў да правільнага і ўсебаковага абслугоўваньня спажывецкіх і культурна-бытавых патрэб камуны. Абслугоўваньне спажывецкіх патрэб камуны вытваралася праз закрыты разьмеркавальнік без неабходнага прыцягненьня грамадзкасьці камуны. Пераважнае забесьпячэньне камуны рабілася неарганізаваным парадкам.

Нялепш стаяла справа і з абслугоўваньнем рабочых, занятых на работах па асушцы масыву. У гэтым годзе на работах па асушцы будзе занята да 4.500 рабочых, а спаж. т-ва ніякай падрыхтоўчай работы да іх абслугоўваньня да красавіка месяца не вяло. У мінулыя гады на гэтых работах таксама была занята вялікая колькасьць рабочых, а спажыв. т-ва зусім нічога не рабіла, каб абслужыць іх спажывецкія і бытавыя патрэбы. Гэта пытаньне не атрымала фактычнага вырашэньня, ня гледзячы на адпаведныя пастановы Бабруйскага акрсаюзу і дырэктыву БКС, і калфонд з часу свае арганізацыі, г. зн., з 1925 г., абслугоўваецца ўласнымі сіламі і сродкамі. Такія адносіны Любаньскіх каапэратараў нагадваюць злачынства, іначай гэта вытлумачыць нельга. Акрсаюз жа ў свой час не паклапаціўся забясьпечыць моцны апарат т-ва, галоўным чынам яго кіруючае ядро.

Пасьля інструктарскага абсьледваньня становішча працы т-ва па абслугоўваньні калфонду, праўленьне БКС павінна было вызначыць цэлы шэраг канкрэтных мерапрыемстваў да палепшаньня работы.

Праўленьне БКС рашыла аб'яднаць Любаньскае спаж. т-ва з Асавецкім, а ў раёне Мар'інскага балотнага масыву арганізаваць асобнае самастойнае спажывецкае таварыства з раёнам дзейнасьці саўгасу імя 10-годзьдзя БССР, камуны БВА і калгасу „Кузьмічы“ з цэнтрам у саўгасе. Нанова арганізаванае таварыства будзе абслугоўваць і рабочых калфонду Мар'іна. У раёне дзейнасьці захавана ранейшая сетка крам, і, акрамя таго, прапанавана адчыніць адну краму ў камуне і арганізаваць тры перасовачных ларкі для абслугоўваньня рабочых калфонду.

Да 1 мая прапанована скончыць калектыўнае каапэраваньне калгасаў і камуны, каапэраваць на 100 проц. рабочых саўгасу, а на працягу лета — ня менш чым 50 проц. рабочых калфонду. Рабочым і калгасьнікам дадзен крэдыт на папаўненьне паю, адначасова з гэтым прапанавана разгарнуць работу вакол пытаньня мабілізацыі сродкаў.

У саўгасе вырашана пабудаваць памяшканьне для сталоўкі, хлебапякарні і крамы местачковага тыпу, у камуне — памяшканьні для крамы, сталоўкі на 300 чал., для хлебапякарні і дому для ясель. Калгасы даюць т-ву неабходныя памяшканьні для адчыненьня ў іх крам і пунктаў грамадзкага харчаваньня. Для пабудовы дому культуры і быту камуне адпушчан доўгатэрміновы крэдыт БКС у суме 15 тысяч рублёў. Дом будзе каштаваць каля 50.000 рублёў.

Да пачатку мэліарацыйных работ у калфондзе спаж. т-ва павінна арганізаваць 4 перасовачныя кухні.

Праўленьню Бабруйскага саюзу прапанавана наладзіць бесьперапыннае забесьпячэньне рабочых, служачых і калгасьнікаў таварамі. Спаж. т-ву прапанавана ўзмацніць загатоўку жывёлы з такім разьлікам, каб звыш плянавых заданьняў забясьпечыць рабочых калфонду. Таксама арганізуецца пры т-ве расаднік сьвіней.

У саўгасе, камуне, калгасе і іншых пунктах арганізуюцца дзіцячыя яські. Бабруйскаму саюзу прапанавана абсталяваць кіно-перасоўку для абслугоўваньня рабочых калфонду.

Вось тыя канкрэтныя мерапрыемствы, якія павінны значна палепшыць абслугоўваньне рабочых і забясьпечыць ім нармальныя ўмовы працы. Застаецца толькі іх выканаць.

З часу дачы гэтых дырэктыў прайшло каля 2 месяцаў, а належнага пераламу ў абслугоўваньні не адбылося. Пры праверцы выкананьня гэтых дырэктыў выявілася, што пастанова пра абслугоўваньне калфонду засталася на паперы. Новае спажывецкае таварыства на калфондзе не арганізавана, арганізацыя грамадзкага харчаваньня і хлебапячэньня не распачата, падрыхтоўка да правядзеньня культурна-бытавых мерапрыемстваў не вядзецца, кіно-перасоўкі няма і г. д.

Такое становішча пагражае зрывам намечаных мерапрыемстваў.

Неахайным, безадказным адносінам да такой вялікай справы трэба пакласьці канец.

Вінаватыя ў зрыве гэтае работы павінны быць прыцягнуты да адказнасьці.

**Шпаркімі тэмпамі перабудуем працу спажывецкай каапэрацыі на выкананьне задач, якія пастаўлены перад ёй рабочаю клясаю і камуністычнай партыяй**

# Палепшыць культмасавую працу

Гінзбург

## Задачы культработы спажывецкай каапэрацыі

Ажыцьцяўленьне пляну вялікіх работ сацыялістычнага будаўніцтва востра высоўвае пытаньне аб узмацненьні тэмпаў культурнага будаўніцтва. Больш, чым калі-б то ні было, у сучасны момант адчуваецца адставаньне культработы ад тэмпаў індустрыялізацыі краіны і калектывізацыі сельскае гаспадаркі. Гэта адставаньне пагражае небясьпекай затармажэньня нашага гаспадарчага росту. Вось чаму культбудаўніцтва на даным этапе набывае асабліва важнае гаспадарча-палітычнае значэньне, вось чаму неабходна ўзмацненьне тэмпаў культурнай рэвалюцыі.



Чырвоны куток Асінавіцкага спажывецкага таварыства

„Пытаньні культурнага будаўніцтва становяцца арганічнай часткай усіх масавых арганізацый, усіх зьвенчакоў пралетарскай дыктатуры“ (з перадавой газэты „Правда“, № 101), бо культурная рэвалюцыя ёсьць раней за ўсё рух мас. Спажывецкая каапэрацыя, якая аб'ядвае большасьць працоўнага насельніцтва і якая абслугоўвае яго спажыўпатрэбы, павінна зьявіцца аднэй з асноўных арганізацый па паасобных вучастках агульнага культурнага фронту.

Выходзячы з гэтага, сыстэма спажывецкай каапэрацыі на Беларусі значна павялічыла ўжо ў 1929/30 г. матар'яльныя ўкладаньні на ажыцьцяўленьне культбытавых мерапрыемстваў, і яшчэ больш рост матар'яльных затрат намячаецца ў астатнія гады пяцігодзьдзя. У 29/30 г. асыгнавана звыш 2 міл. руб., у 30/31 г. вызначаны каля $2^1/_2$ міл., у 31/32 г.— 3 міл. і ў 32/33—$3^1/_2$ міл.

Акрамя вышэйпаказаных сум культфондаў, сыстэма спажывецкае каапэ-

рацыі ўкладае значныя сумы з зваротных сродкаў на кінафікацыю і радыёфікацыю: за 4 гады пяцігодзьдзя намечана выдаткаваць з зваротных сродкаў звыш 2 міл. руб.

Гэтакія вялікія матар'яльныя ўкладаньні ўскладаюць на сыстэму спажывецкай каапэрацыі яшчэ большую адказнасьць за дастатковае разгортваньне культбытавой работы.

Якія-ж канкрэтныя задачы стаяць перад спаж. каап. у галіне культработы? Першае,—гэта пытаньне кнігараспаўсюджваньня. На вёсцы спажывецкая каапэрацыя зьяўляецца адзінай арганізацыяй па прасоўваньню кнігі ў масы, адзінай кнігагандлёвай арганізацыяй, у горадзе рабочая каапэрацыя таксама займае значнае месца на кніжным рынку.

Значэньне кніжок у справе ўзьняцьця палітычна-культурнага і тэхнічнага ўзроўню шырокіх працоўных мас агромна, спажывецкая каапэрацыя адказвае за прасоўваньне кніжок у вёсцы ў калгас, саўгас і за прасоўваньне кніжок у горадзе на прадпрыемствы. Між тым праца з кнігай да апошняга часу пастаўлена кепска, зусім не разгорнута праца з пэрыядычным друкам.

У галіне кінафікацыі спажывецкая каапэрацыя зьяўляецца адзінай арганізацыяй, якая кінафікуе вёску. Рост сеткі кіно-перасовак у 1929/30 г., згодна пляну, павінен быць павялічаны ў два разы і таксама вызначаецца вялікі рост на працягу астатніх гадоў пяцігодзьдзя. Вялікая праграма намечана і ў галіне радыёфікацыі па лініі спажывецкай каапэрацыі. Гэтыя галіны працы: распаўсюджваньне кніжок і пэрыядычнага друку, кінафікацыя і радыёфікацыя зьяўляюцца тымі вучасткамі культурнага фронту, правядзеньне якіх ускладзена амаль выключна на спажывецкую каапэрацыю, а гэтыя галіны працы зьяўляюцца далёка не апошнімі на агульным культурным фронце. Вялікае месца спажывецкая каапэрацыя павінна заняць у справе пагалоўнай ліквідацыі няпісьменнасьці працоўнага насельніцтва, яна павінна ня толькі выдаткаваць сродкі, але і па сутнасьці праводзіць гэту справу, прыцягваючы да яе каапэрац. грамадзкасьць. Спажывецкая каапэрацыя павінна ўзяць на сябе складаньне кантрольных лічбаў па ліквідацыі няпісьменнасьці вызначанай колькасьці людзей. Справа ліквідацыі няпісьменнасьці—важная палітычная задача. Масавая культпраца, якая да апошняга часу зусім амаль не праводзілася, павінна быць шырока разгорнута. Неабходна паставіць задачу ахапіць усімі відамі культмасавай работы найбольшую колькасьць працоўных мас.

Неабходна рашуча ўдарыць па тых, хто не даацэньвае вялікае палітычнае значэньне культмасавай працы. Культмасав. праца павінна ва ўмовах спажывецкай каапэрацыі заключацца ў разгортваньні масавай работы вакол кніжнай, кіно і радыё работы, у разгортваньні антырэлігійнай і антыалькагольнай працы, у правядзеньні масавых відаў каапэрацыйнай асьветы гурткоў, куткоў, школы і г. д., у пэрыядычным правядзеньні ў хатах-чытальнях, нардамох, клюбах дакладаў, вечароў запытаньняў і адказаў і г. д. на каапэрацыйныя тэмы. Гэтыя мерапрыемствы павінны ўзьняць агульна-палітычны і культурны ўзровень каапэраванага насельніцтва, зрабіць яго сьвядомым удзельнікам каапэрацыі і выхоўваць каапэрацыйныя актыў з рабочых, батракоў і беднякоў. Культпраца спажывецкай каапэрацыі павінна адыграць сапраўдную ролю ў справе аказаньня дапамогі партыі і савецкай уладзе ў правядзеньні гаспадарча-палітычных кампаній. Культпраца павінна ўзьдзейнічаць на перабудову нашага быту, яна павінна быць цесна ўвязана з бытавой працай, якая праводзіцца спажывецкай каапэрацыяй у сталовых, культурных чайных і г. д., каб апошнія сапраўдна былі культурна-бытавымі ўстановамі. Акрамя важнейшага бытавога мерапрыемства, як грамадзкае харчаваньне, спажывецкая каапэрацыя праводзіць і другія віды бытавой працы, як арганізацыю дзіцячых установаў, бытавое і інш. абслугоўваньне вучняў школы (гарачыя сьнеданьні ў школах, дапамога пад-

ручнікамі і г. д.). Таксама вызначаецца разгарнуць сетку пральных, лазьняў пераважна ў сацыялістычным сэктары вёскі. Вось у асноўным задачы, якія стаяць у галіне культбытавой працы перад спаж. каапэрацыяй.

Ці спраўляецца ў сучасны момант спажывецкая каапэрацыя з гэтымі задачамі? Неабходна адказаць, што культбытавая праца яшчэ да апошняга часу не займае адпаведнага месца ў рабоце ўсяе сыстэмы, што яшчэ ў шмат якіх выпадках яна знаходзіцца у нас на апошнім пляне. Невялікі кадр культработнікаў выконвае розную работу ў спажывецкай каапэрацыі, толькі ня культбытавую. Мы сустракаемся з палітычнай недаацэнкай значэньня гэтай галіны нашага сацыялістычнага будаўніцтва з боку многіх кіраўнікоў, а за апошні час адбыліся партыйныя нарады пры ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б па пытаньнях культурнага будаўніцтва, яны завострывалі ўвагу ўсіх масавых арганізацый на пытаньнях культурнай рэвалюцыі. Пераглядаецца культурная пяцігодка ў бок значнага павялічэньня тэмпаў.

Спажывецкая каапэрацыя павінна неадкладна стварыць рашучы пералом у справе разьвіцьця і пастаноўкі культпрацы; неабходна, каб гэта праца стала арганічнай неад'емнай часткай агульнай каапэрацыйнай працы. Недапушчальным зьяўляецца становішча невыкарыстаньня меўшыхся сродкаў на культбытавую працу ў 28-29 г. Гэта сьведчыць аб слабой, нікчэмнай пастаноўцы працы, аб поўнай безадказнасьці арганізацый за культбытавую працу. Зусім слабы эфэкт да апошняга часу атрымліваўся ад затрачваемых сродкаў, бо якасьць працы дрэнная, адсутнічае плянавасьць ў рабоце і г. д. Неабходна дабіцца плянавай пастаноўкі працы, поўнай увязкі з агульным плянам культпрацы ўсіх арганізацый, наша праца павінна быць падпарадкавана адзінай прынцыповай лініі, адзінаму пляну культбудаўніцтва пры адначасовым забесьпячэньні самастойнага правядзеньня сыстэмай мерапрыемстваў, вызначаных яе плянамі. Пытаньні шырокага разгортваньня культпрацы ўпіраюцца ў пытаньне кадраў; неабходна ўзмоцненым тэмпам падрыхтаваць кадры. У 30 годзе намечана падрыхтаваць 400 кіно-і радыё-работнікаў, але гэта не задаволіць патрэб, і неабходна яшчэ больш павялічыць падрыхтоўку на наступныя гады.

Усімі культбытавымі мерапрыемствамі павінны ў першую чаргу быць ахоплены сацыялістычны сэктар вёскі а ў горадзе рабочыя. Праца павінна будавацца на базе шырокага ўдзелу грамадзкасьці.

Партыйныя арганізацыі на месцах павінны ўзмацніць сваё кіраўніцтва культпрацай спажывецкай каапэрацыі. Неабходна БКС, як цэнтральнаму органу спажывецкай каапэрацыі, і РСІ прыцягваць да адказнасьці тых кіраўнікоў, якія не жадаюць уразумець палітычнае значэньне культпрацы і бюракратычна ставяцца да яе. Патрэбна мабілізаваць вакол гэтай працы пралетарскую грамадзкасьць і дабіцца рашучага пераломy ў яе пастаноўцы.

## Некалькі слоў пра масавую працу

*(З выступленьня старшыні праўленьня БКС т. Хаскіна на вечары самакрытыкі)*

У масавай працы спажывецкая каапэрацыя мае цэлы шэраг прарываў. У нас вялікая маса пайнікаў-працоўных беднякоў і серадиякоў у каапэрацыйных арганізацыях. Сярод іх мы маем вялікую колькасьць актывістых.

Але як пастаўлена праца з актывістымі, з вылучэньнем іх на каапэрацыйную работу, з іх выхаваньнем? Трэба сказаць, што тут назіраецца цэлы шэраг недахопаў. Мы да гэтага часу ня ведаем, хто наш актыў, і калі трэба каго вылучаць, ня ведаем каго, бо не вялі працы з гэтым актывам, не вывучалі яго.

Спажывецкая каапэрацыя вельмі шмат траціць грошай на агульную масавую культурна-асьветную працу, але вялікага эфэкту ад гэтага пакуль што мы ня маем. У нас адбываецца шэраг курсаў. І толькі таму, што мы ня маем належнага вучоту, ня ведаем, каго нам трэба вучыць, мы часамі дарэмна трацім сродкі. Такіх прыкладаў шмат: мы арганізоўваем курсы, вучым, і толькі тады пачынае высьвятляцца, што сярод слухачоў ёсьць такія, якіх ня трэба вучыць. А іх-жа накіроўвалі нашы арганізацыі, трацілі на іх сродкі. Справа з кадрамі, з падрыхтоўкай іх, з забесьпячэньнем пралетарскіх кадраў, клясава-вытрыманых зьяўляецца актуальнейшым пытаньнем у нашай сыстэме, бо мы атрымаць столькі кадраў, колькі нам трэба на сёньняшні дзень, ня можам. Таму ў нас у цэлым шэрагу месц наглядаецца скрыўленьне клясавае лініі, ёсьць цэлы шэраг прарываў, бо дастатковага забесьпячэньня клясава-вытрыманымі працаўнікамі ў нас няма.

Камуністычная партыя дала зусім яскравую ўстаноўку, што асабліва цяпер масавыя арганізацыі павінны быць „наркамасьветы", культурнымі будаўнікамі, і гэтую задачу мы павінны выканаць. У нас на гэту мэту ёсьць многа сродкаў. Напрыклад, на 1930-31 год асыгнавана амаль 3 міл. руб. У гэтым годзе выдаткоўваецца звыш 2 міл. руб.

І калі гэтую вялікую суму грошай мы скарыстаем так, як належыць, дык атрымаем вялікую карысьць ад ўсёй працы спажывецкай каапэрацыі.

Наша задача—на сёньняшні дзень як мага больш пільна падыйсьці да гэтага пытаньня.



Дзіцячыя ясьлі Менскага ЦРК

І. Ахрэмчык

# Палепшыць працу па прасоўваньні кнігі ў вёску

У пэрыод рэканструкцыі нашай сельскай гаспадаркі добрая кніга зьяўляецца магутнаю зброяй у гэтай справе, таму на спажывецкую каапэрацыю ўскладаецца вялікая праца па прасоўваньні яе ў працоўныя масы насельніцтва, а асабліва на вёсцы. Акрамя гэтага, з 1930-31 навучальнага году спажывецкай каапэрацыі перадаецца поўнае забесьпячэньне кнігамі і рознымі дапаможнікамі ўсіх вясковых школ, партыйных, савецкіх і грамадзкіх арганізацый.

Такім чынам ва ўмовах Беларусі спажывецкая каапэрацыя на вёсцы зьяўляецца адзінай кнігагандлёвай арганізацыяй па прасоўваньні кнігі.

Як-жа ў сучасны момант у сапраўднасьці абстаіць гэтая справа на месцах?

Ня гледзячы на тое, што ўва ўсіх раённых цэнтрах і буйна залюдненых пунктах ёсьць асобныя кніжныя крамы альбо кніжныя аддзелы з асобнымі кніжнымі працаўнікамі, а пры дробных пунктах кніжныя кіёскі і кніжныя паліцы,—якасьць гэтай працы яшчэ вельмі слабая.

Калі кніжная крама ў раённым цэнтры ці буйным іншым пункце якнебудзь вядзе гэтую працу, дык з кніжнай паліцай на вёсцы справа стаіць яшчэ зусім дрэнна, а некаторыя кніжныя паліцы лічацца толькі намінальна: кнігі ляжаць пад прылаўкам запыленыя і зусім не прадаюцца.

Вядома, што кнігу, нават надта патрэбную для таго ці іншага працоўнага, неабходна растлумачваць і гаварыць аб ёй. Але ня ўсе спажывецкія таварыствы займаюцца гэтай справай, яшчэ вельмі мала ёсьць кніганош, не вядзецца папулярызацыя добрай кніжкі і г. д.

У некаторых месцах амаль зусім не абслугоўваюцца кнігай розныя сходы, нарады, канфэрэнцыі, клюбы, кіно і інш., дзе звычайна зьбіраюцца працоўныя.

Недастаткова абслугоўваюцца адпаведнай кніжкай калгасы, у некаторых пунктах да гэтага часу не арганізаваны нават кніжныя адзінкі.

Няма належнай сувязі з мясцовымі партыйнымі і савецкімі арганізацыямі, з прычыны чаго ня створана грамадзкая думка вакол кніжнай працы спажывецкага таварыства.

Вельмі слабы кадр кніжных працаўнікоў, а ў некаторых пунктах працаўнікі нават зусім малапісьменныя; спажывецкія таварыствы не ствараюць належных умоў для кніжных працаўнікоў, у некаторых месцах загадчыкі кніжных крам атрымліваюць пэнсію менш, чым тыя прыказчыкі, якія прадаюць газу ці хлеб.

Улічваючы гэтыя недахопы, Белкаапсаюз вынес пастанову аб узмацненьні кнігагандлёвай працы і зьнішчэньні ўсіх недахопаў, асабліва на вёсцы.

У кожным раённым цэнтры павінен быць аптова-розьнічны магазын, ува ўсіх аддзяленьнях спаж. т-ва, калгасах, нардамох, хатах-чытальнях — кніжныя крамы, аддзелы, кніжныя кіёскі і кніжныя паліцы ў залежнасьці ад пункту. Пры кожным гэтым пункце неабходна мець дастатковую колькасьць кніганош, якія б поўнасьцю ахапілі ўвесь свой раён дзейнасьці.

Каб весьці ўсю гэтую працу, кіраваць усімі кніжнымі адзінкамі ўсяго раёну, пры раённых спажывецкіх таварыствах уводзіцца спэцыяльны інструктар-кніжнік з акладам пэнсіі 80—100 р. Для гэтага Белкаапсаюз у першых чыслах чэрвеня адчыняе $1^1/_2$ месячныя кніжныя курсы на 120 чал.

Неабходна, каб спажывецкія т-вы сур'ёзна падышлі да гэтай справы і сумесна з мясцовымі партыйнымі і савецкімі арганізацыямі вылучылі актывістых таварышоў, якія сапраўды могуць справіцца з гэтай вялікай, адказнай задачай па абслугоўваньні адпаведнай кнігай калгасьніка і наогул працоўнага насельніцтва.

## Літаратурны куток

С. Гаранскі

# Крыніца харчу

(*Нарыс*)

Пасажырскі вагзал астаецца на левым баку чыгункі.

Ускраіна гораду Менску. Крывыя вузкія вуліцы. Апошнія маленькія дзеравяныя домікі. Сады... А вось і буравата-перакацістае поле.

Ня так даўно гэта поле пуставала—ляжала дзірваном. Нікому карысьці ад яго ня было. Толькі і была карысьць, калі хто-небудзь з жыхароў ускраіны папасе на ім якую-небудзь жывёлу—казу ці карову. Так было да 1930 г.

1930 г. 6 студня. На гэтай пустэчы закіпела работа. Застукалі тапары, зашасталі пілы. Адзін за другім пачалі ўзьнімацца шырокія, але нявысокія белыя з дошчак баракі. За месяц іх вырасла 16. З невялікімі, але частымі вокнамі. Абывацелі глядзелі і гадалі, што гэта будуецца... А будынкі прымалі выгляд нейкага сваясаблівага пасёлку ці буйнай фабрыкі.

Усе баракі абгарадзілі высокімі дашчанымі штыкетамі. Пустэча апынулася ў квадратнай агарожы 15 гэктараў плошчы. На гэтай шырыні распасьцёрся сьвінагадоўчы пункт.

Пункт пабудаваны па ініцыятыве МЦРК.

Зараз у ім ёсьць 624 штукі сьвіней старэй 5-6 месяцаў і больш двухсот маладняка. Але гэтыя лічбы ўсё з кожным днём павялічваюцца.

Парода сьвіней розная. Тут ёсьць мэтысы (мясцовая парода), іоркшырская парода і ангельская. Адкармліваюцца сьвіньні, галоўным чынам, памыямі і хлебнымі водкідамі, якія дастаўляюцца з розных сталовак МЦРК. Да гэтага яшчэ дадаецца розная мука, буракі, сэрадэля і іншая гароднiна. У кармёжцы поўная эканомія.

Пункт абслугоўваюць 39 чал. З іх 36 чал. рабочых і 3 чал. адміністрацыі.

Унутры пункту адчуваеш поўны парадак. Усе сьвіньні рассартаваны па бараках. У кожным бараку знойдзеш нешта адменнае. У адным бараку выключна маткі, якія толькі некалькі дзён як апарасіліся. У другім выключна падросткі. У трэцім—парасяты. У чацьвёртым—адкармліваюцца на бэкон...

Кожны барак прыстасован да тае ці іншае групы сьвіней. Асабліва цікавым зьяўляецца барак матак. У кожным катуху (а іх у адным бараку 12-14), як плаха, на ўвесь катух ляжыць матка. Вага кожнай маткі ў сярэднім 12-15 пуд. Пладавітасьць некаторых матак—да 15 штук парасят пры адным апарасеньні.

Увойдзеш у гэты барак—і з усіх бакоў нясецца глухі стогн, які перамешваецца з мышыным піскам парасят. Ля катухоў праходжваюць жанчыны, падчышчаюць гной, пасыпаюць пілавінамі.

Акрамя дагляду рабочымі, амаль кожны дзень па бараках праходзіць вэтэрынар і робіць агляд сьвіней.

Надзвычайна цікавым зьяўляецца яшчэ барак, дзе адбываецца апошняя ступень кармленьня. З задаволе-

най усьмешкай паказваюць рабочыя „ўпітаных Васькаў". Ад сьценкі і да сьценкі катуху ляжаць і стаяць яны з заплыўшымі вачыма, некаторыя ня могуць ні ўстаць, ні павярнуцца.

— Вось гэтага я ўзганю,—кажа рабочы і ўлазіць у катух. Бярэ пад заднія лапаткі, і парасюк насілу становіцца на ногі. Велічыня і даўжыня на зьдзіўленьне.

— А колькі ён важыць?—бярэ цікавасьць.

— 29 пудоў,—адказвае рабочы і, сьмяючыся, паглядае ў твае вочы, нібы хоча гэтым сказаць, што такіх ты яшчэ ня бачыў.

Пункт, галоўным чынам, бярэ ўхіл на загатоўку тавару, а таксама культывуецца парода.

Бываюць выпадкі падзяжу сьвіней ад хваробы чумы, хаця гэта ўсяляк і папярэджваецца. Усім сьвіньням зроблена прышчэпка, баракі дэзынфэктуюцца і на кожную заўважаную ненармальнасьць зварочваецца заразжа ўвага.

Ёсьць яшчэ некаторыя недахопы ў сэнсе поўнага абсталяваньня. Да гэтага часу няма студні, яна яшчэ робіцца.

Але, ня гледзячы на гэтыя дробныя недахопы, ужо цяперашні стан сьвінагадоўчага пункту кажа аб тым, што пэрспэктывы вялікія.

Усяго некалькі месяцаў працуе гэты пункт, а ён атрымаў ужо шырокі размах, дае добрыя вынікі. Далейшае дае магчымасьць гэту справу яшчэ больш пашырыць і зьнішчыць усе недахопы.

Пачатак зроблены. На пустым месцы расквітае галіна важнай гаспадаркі сацыялістычнага сэктару.

---

**Скора Міжнародны дзень каапэрацыі і сьвята X гадавіны вызваленьня Беларусі ад белапалякаў. Шлеце ўспаміны, матар'ялы аб рабоце, як каапэрацыя выконвае дырэктывы партыі**

---

УЛ. ДУБРОЎСКІ

# ЗНАЙШЛІ ВЫХАД

/АПАВЯДАНЬНЕ/

Нестар Акімавіч Лазгуноў, старшыня Кісьлякоўскага спажывецкага таварыства, ён-жа начальнік пажарнай дружыны, сядзеў на надломаным крэсьле ў сваёй канцэлярыі. Сядзеў ён згорбіўшыся кручком над сталом і перачытваў свае рахункі. Лысіна яго галавы нагадвала здалёка крута зваранае вялізнае яйцо і ўжо крыху пажоўклае. І на гэтай лысіне цяпер ёрзала муха.

Нестар Акімавіч хлопнуў паважна далоняй па лысіне і зноў пачаў перачытваць рахункі.

Поплеч, збоку за другім сталом, сядзеў Мікалай Тодаравіч Сьвішчыкаў, бухгальтар Кісьлякоўскага таварыства. Ён сядзеў, далёка адкінуўшыся сярэдзінай на крэсла, і бязьлітасна стукаў касьцянкамі шчотаў.

Нестар Акімавіч скончыў чытаць. Ён адвярнуў галаву ад папер, раскіданых на стале, і пачаў па старой прывычцы глядзець у вакно, а потым на сьцены.



Нудна гудзелі і біліся ў вакне мухі, а на сьцяне вісеў усё той-жа лёзунг: „Цераз каапэрацыю—да сацыялізму“, а трошкі воддаль—„У канцэлярыі ня курыць“.

Нестар Акімавіч, павярнуўшыся зноў да стала, адарваў рог з газэты і скамячыў яго, пасьля далікатна палажыў яго паміж двума кончыкамі пальцаў і пстрыкнуў ім у Мікалая Тодаравіча.

Мікалай Тодаравіч адвярнуўся і сказаў:

— Вы, Нестар Акімавіч, зноў ізволіце жартаваць. Кхе... кхе... Тут, Нестар Акімавіч, не да жартаў. Не да жар-таў, — расьцягнуў ён апошняе слова.

— А што там за сытуацыя ў вас такая?

— А такая, Нестар Акімавіч, недахоп. Разумееце, не-да-хоп...

Нестар Акімавіч падпёр бараду рукою і, паўтарыўшы слова недахоп, сказаў:

— Вы, Мікалай Тодаравіч, ня ўмееце бухгальтэрыі весьці. Ня ведаеце яе... Гэта так. Дакуль-жа гэтыя недахопы будуць? Патрэбна іх зьліквідаваць.

— Усёй душою імкнуся, Нестар Акімавіч, зрабіць так, але... але на гэты раз ня выходзіць.

— Тэк-с, тэк-с... а наколькі там на гэты раз ня выходзіць?

— На 245 рублёў 54 капейкі.

— Ну вось, гаварыў-жа, што ня ўмееце бухгальтэрыі весьці. Вось 'шчэ і капейкі гэтыя нават. Ну, 54 капейкі! Якая точнасьць... Ну, што-ж? Нічога ня будзе. А зараз прапаную вам, Мікалай Тодаравіч, павесіць на дзьвярох шыльдачку—„Канцэлярыя не працуе“—і замкнуць іх.

Мікалай Тодаравіч апошні раз стукнуў, як сухім гарохам, касьцянкай і пашоў замыкаць дзьверы.

— Кожны раз выходзіла як быццам-бы і добра, а цяпер вось не. Дрэнна

справа. Перахапілі крыху...—развачаў Нестар Акімавіч.—А ўсё гэтыя сьвяткі, каб на іх немач. Усё яны вінаваты. То вялікдзень быў—тры дні сьвята, то першы май падскочыў—два дні сьвята. Ну і давялося...

— Ну што ж, было, дык было. Самі ўехалі, самі і вывозіць будзем.

Мікалай Тодаравіч апошні раз крутнуў ключом у замку і апусьціўся паранейшаму ў крэсла.

— Ну, дык як-жа, Тодаравіч, якія ў вас прапановы будуць па дадзенаму пытаньню?

— У мяне... У мяне, ведаеце, ну ня прыдумаю, ну няма... Яно можна, канешне, у крайнім выпадку. Можна, калі на тое ўжо пашло, прадаць ці вашу карову, ці маю цялушку...

— Так. Прадаць карову ці цялушку. Цялушку ці карову. Маю ці вашу. Ці наадварот. А шкода ўсё-такі, тавaрыш Сьвішчыкаў. Ці-ж ня так?

— Яно, канешне, так...

— Ну, якія іншыя прапановы будуць?

— У мяне, Нестар Акімавіч, няма, сур'ёзна няма.

— Ага, так. Няма... Ну што-ж, мне ў галаву кой-кольвечы што ўсплыло. У мяне маецца рэзалюцыя па дадзенаму пытаньню. Прашу выслухаць.

І Нестар Акімавіч пачаў павольна, нібы чытаючы, імправізаваць наступнае: Папершае, прызнаць факт растраты ў наяўнасьці ў колькасьці роўна 245 рублёў. Падругое, оная растрата, была зроблена старшынёю таварыства т. Лазгуновым і яго-ж бухгальтарам т. Сьвішчыкавым. Патрэцяе, яе трэба ў хуткім-жа часе пакрыць (бо інача іх пакрыюць).

Канкрэтныя прапановы: Прапануецца таварышу Сьвішчыкаву сёньня-ж, перад тым, як зачыняць краму, пайсьці ў краму. Залезьці там у засек з сольлю і чакаць, пакуль крамар Гаўрылюк зачыніць такавую. Пасьля ўсяго гэтага вылезьці з засеку і ўзяць у касе крамы грошы ў належнай колькасьці і прынесьці мне ў канцэлярыю таварыства. Вылезьці тав. Сьвішчыкаву патрэбна цераз заднія дзьверы, якія запіраюцца на заваліну з сярэдзіны, і выйсьці ў сьвіран, а з сьвірна прабрацца на страху.

Таварышу-ж Лазгунову, як начальніку дружыны, сёньня-ж ноччу ўзьлезьці на страху і разабраць гонты каля коміну. На выпадак чаго адказаць: правяраю дымаход. На гэтым мае прапановы скончаны.

Мікалай Тодаравіч зрабіў круглыя, як касьцянкі ў шчатах, вочы і паглядзеў на Нестара Акімавіча.

Нестар Акімавіч падышоў да шафы, адамкнуў яе і, залажыўшы за кіпу папер руку, выняў адтуль паўлітроўку.



— Вось глядзі, Мікалай Тодаравіч, для вас сёньня першая чарка, і ён лоўка стукнуў далоньню ў дно бутэлькі. Корак выскачыў і куляй стукнуўся ў столь, а адтуль рыкашэтам паляцеў на вакно.

Мікалай Тодаравіч бліжэй падсеў да Нестара Акімавіча.

А калі было бяз чвэрткі сем, Мікалай Тодаравіч круціўся каля засеку з сольлю і пытаў у Гаўрылюка:

— А ці хопіць нам на гэты месяц солі?

— Хопіць.

— Ну то добра... І калі Гаўрылюк адвярнуўся ў бок, Мікалай Тодаравіч лоўка шмыгнуў у засек з сольлю і схаваўся ў цемені кутка.

Было ўжо зусім цёмна, калі Мікалай Тодаравіч прачнуўся і вылез з засеку. Яму паказалася, што ён ўжо

даўно праспаў ўсё, што Нестар Акімавіч не дачакаўся яго, і пашоў да хаты на адпачынак.

Ён абмацаў рукамі прылавак. Пералез на другі яго бок і стаў у пацёмку прабірацца да касы. Ногі ён падымаў высока і апускаў асьцярожна, каб не зачапіцца за што-небудзь і не нарабіць грукату.

Прашоўшы крокі два, ён у нешта стукнуў нагой і пачуў, што яго нага папалася ў нешта халоднае. Ён выхваціў яе, абмацаў. Нага была мокрая. Запахла газай. Ён асьцярожна ступіў далей і раптам нешта абярнуў нагой. Пасуда пакацілася, стукаючы і разьліваючы штось па падлозе.

На хвілінку Мікалай Тодаравіч аслупянеў. Стук спалохаў яго. Навокал цемень, хоць вочы выкалі. Акяніцы ўсе зачынены. Далей ісьці так нельга. Ён успомніў, што ў яго ёсьць сярнічкі. Дастаў іх і чыркнуў, каб разгледзецца ў цемені.




Як быццам незнарок, як быццам на тое ўжо і пайшло, здрадлівая запалка ўзяла ды трэснула на палавіне і звалілася з агоньчыкам на падлогу. І не пасьпеў Мікалай Тодаравіч прыціснуць яе нагою, як ад запалкі адлучыўся сіненькі зьвярок і пабег па падлозе аж туды пад прылавак.

Мікалай Тодаравіч схапіў жменю мукі і сыпнуў на зьвярка. Зьвярок падняўся вышэй і пабялеў. Мікалай Тодаравіч асалапеў.—Ай... закрычаў ён і кінуўся да дзьвярэй. Стукаючы ў дзьверы нагою і рукамі, ён закрычаў з сярэдзіны—„па-жа-ар!“

Пасьля ён пачуў, як штосьці шлёпнулася з страхі і пабегла. Ён здагадаўся...

Цераз хвіліны тры ён чуў, як на Кісьлякоўскай вежы захліпаўся звон бум... бум... бом...

У краме было ўжо дымна. Мікалай Тодаравіч бегаў ад дзьвярэй да засеку з сольлю. Зноў лоўка нырнуў ён у яго цемень і раптам пачуў, як загрукалі ў дзьверы.

— Ламі дзьверы кіркай, — пачуў ён голас Нестара Акімавіча.

Дзьверы з трэскам кінуліся на падлогу. Цяжка стукаючы каблукамі па памосту, убеглі людзі ў краму. Пачалося змаганьне чалавека з агнём.

Раптоўна хтосьці ўскочыў у засек і абмацаў нагу Мікалая Тодаравіча. —А, вось, вось тут...Куды забраўся... Ашалеў ці што?—і, узяўшы Мікалая Тодаравіча пад пахі, шврыгануў з засеку.

Апусьціўшы вочы ўніз, стаяў Мікалай Тодаравіч перад засекам.

— Папаўся! Канец!—круцілася ў яго галаве. Ён глянуў навокал. Перад ім стаяў Нестар Акімавіч.

— А-а-а, таварыш Сьвішчыкаў. Якім чынам? Якім шляхам? Так вось што. Злачынец! Рвач! Растратчык! Пажарнікі! забраць яго!

— Стой, стой, куды? і ты-ж...і ён... разам. Ён падгаварыў мяне. Падвеў... Лазгуноў растраціў... мы хацелі...

— Таварыш Сьвішчыкаў, прашу бяз лішніх слоў. За паклёп на старшыню спажывецкага таварыства і начальніка пажарнай дружыны вы будзеце адказваць па асобнай стацьці. Памятайце гэта.

— А, вось што! Юда! Падвёў—закруцілася ў галаве Сьвішчыкава. Што будзе? Ён нічога не гаварыў, а толькі чуў, як шыпелі галавешкі ад прылаўку ды цвыркала пад нагамі людзей ў краме вада.

Дым зьмяншаўся.

— Таварышы, дарагія, родныя. Я нявінен. Я ўсё на судзе пакажу. Лазгуноў вінават.

— Выводзьце яго! — скамандаваў Лазгуноў.

Пажарнікі схапілі Мікалая Тодаравіча пад пахі і пачалі выводзіць.

У краме агонь быў патушан. Толькі чорныя плямы ад сіненькага зьвярка параскідаліся па падлозе. У іх стаяла мутная вада. Па падлозе былі паабарочваны вёдры, бочкі.

Мікалай Тодаравіч пад прымусам пажарнікаў вышаў на двор.

У ночнай цемені, кутаючыся ў вопратку на скорую руку, стаялі зьдзіўленыя кісьлякоўцы і глядзелі на Сьвішчыкава, на яго нагу ў газе і выкачаную ў соль.

— Бярэце і яго!—крыкнуў ён, абярнуўшыся назад і паказваючы на Лазгунова.

— Ідзі! Разьбяромся пасьля. Усё разьбяром.

І Мікалай Тодаравіч ішоў па вуліцы паміж двума пажарнікамі, а там, дзесьці ззаду, лаяўся з пажарнікамі Нестар Акімавіч.

— Сволач, і мяне блытае ў брудную справу. Гэта паклёп. Таварышы пажарнікі, вы гэтага не павінны дапусьціць. Будзьце сьведкамі...

— Мы яго... Нам... Я... і гукі дзесьці ўшчаміліся ў ночнай цішы.

* * *

Праз два тыдні нарсуд судзіў абодвух. Мікалай Тодаравіч і Лазгуноў сядзелі на зэдліках падсудных, спусьціўшы галовы.

**КААПКОРЫ!**

**Дасылайце матар'ялы і здымкі з жыцьця каапэрацыі на мясцох**

# На мясцох

Мікола Явар

## Некаторыя хібы ў працы

(*Сьмілавіцкае спажыв. таварыства*)

Да 21 лютага ў Сьмілавіцкам раёне існавала 5 самастойных спажыв. т-ваў, але ў зьвязку з ростам сацыялістычнага сэктару с.-г. раёну абслугоўваньне апошняга невялікімі спаж. т-вамі не адпавядала прад'яўляемым запатрабаваньням сац. сэктару с.-г. раёну.

Уся грамадзкасьць раёну, у тым ліку і сход упаўнаважаных т-ва ад 21/II, парашылі арганізаваць на тэрыторыі раёну адно буйнае раённае спаж. т-ва.

Усё гэта добра, але паглядзім, якжа была праведзена падрыхтоўчая праца да рэарганізацыі. Дрэнна. Пасланы інструктар Менскага аддзяленьня заняўся выключна працай па афармленьню зьліяньня, не зьвярнуўшы ўвагі на працу па арганізацыі груп батрацтва і беднаты. Як пры праўленьні, так і ў падраёнах т-ва не арганізаваны былі органы грамадзкасьці, не пабудована была таварная база, не ўкамплектаваны адразу апарат т-ва і г. д., у выніку чаго, замест паляпшэньня абслугоўваньня спажыўца, атрымалася значнае пагоршаньне. Гандлёвы зварот за сакавік м-ц, у параўнаньні з мінулымі месяцамі, зьменшыўся на 18.000 руб.

Кіраўніцтва праўленскім апаратам з боку МАПКС слабое, і ў дадатак унутраныя нелады паміж асобнымі сябрамі прэзыдыуму праўленьня дрэнна адбіліся на ўсёй працы т-ва.

### Праца з батрацтвам і беднатою

Як ні дзіўна, але факт, што ў Сьмілавіцкім спаж. т-ве група батрацтва і беднаты створана толькі 15/IV—30 г. Працы з арганізаванай групай ніякай не вялося, і сход групы ні разу ня склікаўся. Вучоту капэраванага і некаапэраванага батрацтва няма. Да апошняга часу частка батрацтва не каапэравана. Выданыя ссуды з ФКБ серадняком не спагнаны поўнасьцю, у той час як ёсьць перавыдатак ФКБ каля 500 руб. Прыцягненьне батрацка-бядняцкіх мас у справу кіраўніцтва працай спаж. т-ва зусім адсутнічае.

### Абслугоўваньне рабочых саўгасаў

У раёне дзейнасьці спаж. т-ва ёсьць 4 саўгасы, пры чым саўгасы досыць буйныя (Зазер'е—104 стал. раб. і служ.). З боку праўленьня нічога ня было зроблена ў справе паляпшэньня абслугоўваньня рабочых саўгасаў. Ні ў адным саўгасе няма крамы спаж. т-ва.

Ніякай культмасавай працы не вялося, кіно-перасоўка ў 3 м-цы раз пападае ў саўгас. Вызначана па пляну арганізацыя 2 сталовак, але праца праходзіць зусім вяла. У саўгасе Дукора на 26/IV яшчэ амаль нічога ня было зроблена ў справе адчыненьня сталоўкі. Сыстэмы ў разьмеркаваньні дэфіцытных тавараў ня было, а таму былі такія моманты, калі рабочыя атрымоўвалі талёны на тавар, а тавару атрымаць не маглі (тавар прадаваўся другім).

### Мабілізацыя ўнутраных рэсурсаў

У справе мабілізацыі ўнутраных рэсурсаў спажыв. т-ва праводзіць працу слаба. Дэбіторская запазычанасьць складае значную ўдзельную вагу ў балянсе, адны толькі безнадзейныя (розныя дэбіторы) складаюць каля

10.000 руб. Большая частка гэтых даўгоў падае на далучаныя спаж. т-вы, пры чым у гэтых сумах фігуруе выданы аванс пад памольны збор уладару млына Вігдорчыку. Авансаваньне нэпмана праводзілася праўленьнем Абчак-Замастоцк. спаж. т-ва. У сучасны момант уладар уцёк, не аддаўшы Сьмілавіцкаму спаж. т-ву 483 руб.

Праўленьне Сьмілавіцкага спаж. т-ва на пашыраным пасяджэньні прэзыдыуму ад 25/II канстатавала грубае скрыўленьне клясавай лініі з боку праўленьня Абчак-Замастоцкага спаж. т-ва Прэзыдыум парашыў справу перадаць сьледчым органам для прыцягненьня праўленьня да крымінальнай адказнасьці, адначасова прад'явіўшы грамадзянскі іск праўленьню Абчак-Замастоцкага т-ва на 483 рублі.

Пытаньнем больш рацыянальных скарыстаньняў тары (бочкі, скрынкі і г. д.) праўленьне не займалася. Скрынкі зусім не выкарыстоўваюцца. Запас тавараў на 1/IV меўся на 45 дзён, што бязумоўна таксама ненармальна.

### Грамадзкае харчаваньне

Сталоўка ў Сьмілавічах працуе дрэнна. Працаўнікі сталоўкі зусім не дысцыплінаваны. Кухар п'янствуе і ў п'яным выглядзе прыходзіць на працу. Прэзыдыум на гэтым-жа пасяджэньні зволіў кухара з працы. Нормы выдаткаваньня прадуктаў на абеды не нармаваліся. Загадч. сталоўкі, бухгальт. не папярэдзіў такога зьявішча, у выніку чаго выдаткаваліся прадукты бескантрольна. Буфэт таксама працуе дрэнна: ёсьць 2 буфэтчыцы (працуюць у 2 зьмены) і прадаюць талёны на абеды і салоную рыбу, другіх прадуктаў, якія-б бяз цяжкасьці магчыма было мець у буфэце (селядцы розных прыгатаўленьняў, вінегрэт, халоднае і г. д.), няма.

### Культпраца

Культмасавая праца ў спаж. тав. адсутнічае. Інструктар па культпрацы займаецца чым папала, толькі ня культурнай працай.

Літаратуры да сяўбы прадана зусім мала, усяго толькі на 393 руб. Ёсьць 60 кніганош, кіраўніцтва іх працай ніякага няма ні з боку інструктара-культурніка, ні з боку загадчыка кніжнай крамай, у выніку чаго кніганошы прытрымліваюць каштоўнейшыя кніжкі (да вяс. сяўбы) па месяцу і, падраўшы іх, зьвяртаюць назад у краму.

Урэшце трэба сказаць, што апарат у асноўным працаздольны. Трэба толькі больш рашуча ўзяцца за выпраўленьне памылак.

Чык-Чырык

## Выгнаць нядбайнасьць і злоўжываньні

Апалінскае спаж. т-ва, Грэскага раёну, існуе з красавіка 1925 г. Капэрацыя, дзякуючы сумленным працаўніком у ёй, шпаркім тэмпам ішла ўгару і ахапіла амаль тры с/с., адчыніўшы там тры аддзяленьні, але нарэшце настаў для яе 1929-30 безгаспадарчы год. У лістападзе мінулага году абралі новае праўленьне, у склад якога старшынёю ўвайшоў нехта Лазарэвіч пад націскам некаторых мясцовых арганізацый.

У пачатку сваёй працы праўленьне працавала як-бы добра: адчыніла пункт па адкорму сьвіней, купіла і адрамантавала хлеў для кароў, нарыхтавала 2000 пуд. бульбы.

З-за безгаспадарчасьці праўленьня і незацікаўленасьці мясцовай партячэйкі адкормам сьвіней апошнія згубілі і тую вагу, якую яны мелі да паступленьня. Сьвіней кармілі па 20 штук з аднаго карыта, што і прынесла значную стату. Давялося прадаць за 25 руб. 300 пудоў бульбы, бо яна бяз ніякага дагляду згніла, і прышлося прасіць саўгас Покрашава, каб ён хацц прыняў і па гэтай цане.

На 1 красавіка 1930 г. па крамах ёсьць шмат заляжалых тавараў, напрыклад, зімовыя шапкі, якія прышлі зусім у нягоднае становішча, на суму 320 руб. і г. д.

Па крамах ёсьць недастача ў 260 руб. На 1 красавіка інвэнтар па



сьпісу т-ва ацэньваўся ў 12.000 руб., апроч таго, з гэтага актыву доўг па вэксалёх—7000 руб. Каапэратыў, адчуваючы свой заняпад, пашоў прасіць Грэскае спаж. т-ва прыняць яго да сябе пад лёзунгам „слияния“.

Апошняе згадзілася. Цяпер з раней „славутага“ Апалінскага спаж. т-ва яно ператварылася ў аддзяленьне Грэскага спаж. т-ва. Пайнікі нездаволены гэтым і маюць нараканьні на Лазарэвіча.

У гэтым-жа спаж. т-ве служыць загадчыкам галоўнае Апалінскае крамы Шавель Мікола. Гэта чалавек, які ведае, што такое растраты, што такое п‘янства.

Шавель працуе на пасадзе крамніка ўжо 3 месяцы. За гэты час ён нажыў сабе вэлёсыпэд, гадзіньнік... Аднак і растратамі ў краме можна „ганарыцца“. Пры першай рэвізіі ў Шавеля выявілі недастачу ў суме 165 руб. Праз 15 дзён пры другой рэвізіі ў Шавеля недастача выразілася ў суме 80 руб.

Любіць Шавель і выпіць. Вось факты. Нядзеля, 13 красавіка. Каля крамы шмат народу, а крама на замку. Шавель „моліцца шкляному богу за свае грахі“. А 4-ай гадзіне па паўдні Шавель адпраўляе „назойлівых“ спажыўцоў спаць, а сам, зачыніўшы краму, ідзе хуліганіць. Ён падыходзіць да дзяўчыны Цімкевіч Тацяны і, выхапіўшы ў яе чужы шалік, з крыкам „я яго пасяку“ зьнікае.

Другі факт: 22 красавіка на ігрышчы Шавель, будучы п‘яным, па невядомай прычыне б‘е па твару Швыдрыку, і толькі дзякуючы моладзі, якая не дапусьціла Шавеля да далейшай бойкі, справа ўціхамірылася.




Трэба, каму сьлед, зьвярнуць належную ўвагу на працу Апалінскага спаж. таварыства, а таксама даць месца Шавелю ня ў краме, а якоенебудзь іншае.

Я. Чысты

# Любімчыкі

„Хорошо тому живется, кто в приятельстве живет"...

У ясны пагодны дзень 27 красавіка, ідучы з крамы па сялу Багушэвічы (Бярэзінскі раён), Дуброўскі з Ліхтарманам гаварылі:

— Да чаго цяперашнюю маладзёж павывучалі, проста дзіву даешся. Робіш ты, можна сказаць, усё гладка, чыста, а тут на табе заўважаць.

— Так, таварыш Ліхтарман, цяпер трэба быць асьцярожным, глядзець ва ўсе бакі,—паясьняў т. Дуброўскі.

— А тут, калі праўду казаць, проста другому рабіць няма чаго—ходзіць ды прыглядаецца.

— Што, брат, думаеш...

Цэлы дзень у нядзелю, 27 красавіка, Багушэвіцкая крама была перапоўнена пакупцамі. Выходзілі адны, прыходзілі другія. Чарга зьмянялася. Перад гэтым прывезьлі дэфіцытныя тавары ў таварыства. Між другімі былі і ніткі.

Усім пайнікам давалі па аднэй шпульцы і адзначалі ў кніжцы.

Але ня ўсе пайнікі роўныя ў нашых каапэратараў. Прышоў у гэты-ж час і Віктар Кавалёнак па ніткі. Яму тав. Ліхтарман (член праўленьня, які дапамагаў прадаваць тавары) даў дзьве шпулькі нітак, не запісаўшы ў кніжку. А праз тры хвіліны ён падышоў да прыказчыка Дуброўскага, які таксама даў тры шпулькі бяз ніякае адзнакі.

Не ўцярпеў гэтага, каб не заўважыць, Костка Янка:

— Здаецца, лішнія шпулькі перадалі?—напомніў ён Ліхтарману, а той раптоўна:

— Не мяшай працаваць!—А крыху пачакаўшы дадаў:

— Ты ў нас таксама ільготамі карыстаешся. Табе, як батраку і вучню сямігодкі, даём 1 кілёграм цукру ў м-ц, дык і маўчы. А то, як дадзім звычайную норму 100 грам, дык будзеш ведаць, як заўвагі рабіць. Табе цукар больш каштоўны, а другому ніткі.

— Я нічога, я нічога, я толькі напомніў...—схамянуўся вучань.



— То-то, майстар на заўвагі, глядзі ў мяне!—заспакоена адказаў Ліхтарман.

Калі ішлі да хаты, Дуброўскі непакоіўся:

— Чаго добрага яшчэ ў газэту напішуць.

— А ты ня бойся вельмі. От, па другой катэгорыі калі ўжо вычысьцілі цябе за такія-ж факты пры чыстцы савецкага апарату, а ты і да сёньняшняга дня працуеш і будзеш працаваць.

— Я то нічога пра гэта, але от толькі крыўдна, што ўсякі вучань бярэцца цябе вучыць.

— Сьвет, брат, цяпер такі, — усьцешваў Ліхтарман.

## „Твой тата не калгасьнік“

Нідзе, мусіць, няма такога загадчыка аддзяленьня, як наш Папкоўскі. Ён у сёлета адчыненым Таўкачэвіцкім аддзяленьні (Пухавіцкага раёну) прадае ўсякія тавары з крамы.

Калі да яго ў краму прыдзе селянін-бядняк ці серадняк не калгасьнік купіць мукі, круп ці іншага тавару, дык ён адразу адказвае: „Твой тата не калгасьнік, трэба ўступіць у калгас, а то скора ні солі, ні газы, ні пачкі запалак ня дам, хто ў калгасе ня будзе“.

Нам здаецца, не такім мэтадам трэба агітаваць аб уступленьні ў калгас.

Чуўшы

## „Прыступу няма“

У Вайнілаўскім каапэратыве загадчыкам зьяўляецца т. Уласэвіч, да якога і на брычцы не пад'едзеш. Ходзіць ён такім рызыкантам, што прыступу няма, нічога ня пытай, а то яшчэ і аблае. Савецкаму працаўніку трэба больш уважлівым быць да сваіх пакупцоў.

А. Ках

## Збываюць памаленьку

Цяцерынская спаж. каапэрацыя Круглянскага раёну ўвесь час прадае гнілую высахшую ваксу, якую нельга ўжываць.

— Чаму гэта ў вас лепшае ваксы няма?—пытаюць абураныя пакупцы.

— Збудзем памаленьку гэтую, а тады і аб лепшай падумаем — кажуць каапэратары.

Пакупцы нездаволены такім фактам.

А. Стойкі

## Што хоча, тое і робіць

На Мазыршчыне ёсьць Сухавічы, а ў іх ёсьць каапэратыў, а ў каапэратыве гандлюе тав. Дашкевіч. Прыдзе ён у краму а гадзіне 10-11, пабудзе 2-3 гадзіны ды пойдзе, часта бяз ніякіх прычын, у клюб ці сельсавет.

А сяляне тым часам прыдуць купіць што-колечы ў краму ды шукаюць яго па Сухавічах.

Знойдзеш, дык маўчы, нічога не кажы супроць, а то аблае яшчэ. За два гады ў Сухавічах ён не правёў ніякае працы з пайнікамі. Працай Дашкевіча камусьці варта пацікавіцца.

В. Таполя

## Іх гэта ня турбуе

У пастанове ЦК УсеКП(б) ад 2/IV 30 году ёсьць пункт, у якім гаворыцца, што калгасьнікі могуць атрымліваць ільготы пры ўступленьні ў пайнікі каапэрацыі.

Але нашага Капаткевіцкага спаж. таварыства, што на Мазыршчыне, гэта, мусіць, не датычыцца. Ніякай растэрміноўкі яны не прызнаюць. Ім адразу ўвесь пай палажы на стол, а яны табе—кніжку за гэта. У іх, бачыце, кажа старшыня тав. Васін, капіталу няма, каб растэрміноўкі рабіць.




Можа льга пашукаць дзе-небудзь капіталу, каб пастанову Цэнтральнага Камітэту партыі правесьці ў жыцьцё. Падумайце, таварышы каапэратары.

Селькор

## Не падрыхтаваліся

Наша Абчугская селькаапэрацыя мала нарыхтавала жалеза для рамонту с.-гаспадарчых прыладаў, а нарыхтаванае давала толькі па выбару. Прыходзіць які-небудзь селянін-серадняк, дык яму не даюць, бо ён не калгасьнік. Гэта шкодзіць сваячасовай сяўбе паасобных гаспадарак.

С. Зоркі

# Каапэрацыйная хроніка

## Зьліяньне ТСТ з ЦРК

Камісія па зьліяньню транспартнай каапэрацыі з ЦРК пастанавіла распачаць прыёмку прадпрыемстваў ТСТ з 16 мая, згодна схэмы, прынятай камісіяй Заходняга саюзу.

Рабочай і транспартнай каапэрацыям прапанована правесьці сярод чыгуначнікаў шырокую растлумачальную кампанію аб мэтах зьліяньня.

У часе прыёмкі транспартных каапэрацыйных установ ЦРК павінен дабіцца бесьперабойнага забесьпячэньня таварамі і прадуктамі чыгуначнікаў і сэзонных рабочых тых вучасткаў, дзе будзе праходзіць перадача цэрабкопам.

Тэрмін зьліяньня ТСТ з ЦРК устаноўлены да 25 мая.

## Рыхтуюцца рахункаводы для калгасаў

За рахунак МЦРК пры вайсковых часьцях гор. Менску адчынены і працуюць аб'яднаныя шасьцімесячныя курсы па падрыхтоўцы рахункаводных працаўнікоў. Скончыўшыя курсы рахункаводы будуць накіраваны ў калгасы.

Укамплектаваны гэтыя курсы выключна чырвонаармейцамі.

## Месцы ў навучальныя ўстановы

МЦРК атрымаў месцы ў наступныя навучальныя ўстановы: каапэрацыйны інстытут імя Рыкава (Масква)—1 месца, 4-месячныя курсы па падрыхтоўцы пэдагогаў па каапэрацыйных дысцыплінах (Кіеў)—2 месцы, курсы пэдагогаў па тавараведаньню (Ленінград)—1 месца, практычная каапэрацыйная акадэмія (Ленінград, тэрмін навучаньня 2 гады)—1, паўтарамесячныя курсы па падрыхтоўцы арганізатараў прыгарадных гаспадарак (Ленінград)—1, 4-месячныя курсы па падрыхтоўцы пэдагогаў каапэрацыйных дысцыплін (Харкаў)—4, 8-месячныя курсы па падрыхтоўцы працаўнікоў для садова-гародных каапэрацыйных установ (Масква) 1 месца.

Месцы на гэтыя курсы ў першую чаргу будуць дадзены каапэрацыйным працаўнікам і рабочым-пайнікам.

## МЦРК рыхтуе кадры

Згодна пляну, МЦРК павінен падрыхтаваць за бягучы гаспадарчы год каля 400 працаўнікоў розных кваліфікацый для сваіх установ і прадпрыемстваў.

Зараз МЦРК разгарнуў шырокую сетку кароткатэрміновых падрыхтоўчых курсаў. Рыхтуюцца працаўнікі прылаўкаў, афіцыянты, кухары і г. д.

З рабочых-вылучэнцаў МЦРК рыхтуе загадчыкаў магазынаў і сталовак. За першае паўгодзьдзе гаспадарчага году МЦРК падрыхтаваў 269 працаўнікоў пералічаных кваліфікацый, але падрыхтоўка працаўнікоў праводзіцца і зараз.

Так, у канцы красавіка месяца адбыўся выпуск чатырохмесячных курсаў па падрыхтоўцы кухароў, дзе падрыхтавана 30 новых працаўнікоў кухні.

Адначасова з гэтым скончыліся месячныя курсы загадчыкаў сталовак. Гэтыя курсы укамплектоўваліся выключна вылучэнцамі з рабочых.

У пачатку мая месяца адбыліся выпускі дзьвюх груп курсаў па падрыхтоўцы афіцыянтаў для сталовак МЦРК. На курсах афіцыянтаў навучаліся жонкі рабочых нізкааплачваемых груп, хатнія працаўніцы і беспрацоўныя. Усяго на абедзьвюх гэтых групах падрыхтавана 62 афіцыянты.

На працягу мая месяца адбудуцца выпускі месячных курсаў кухарак, якія набраны з жонак рабочых і разьлічаны на 31 асобу, і курсаў працаўнікоў прылаўкаў (прадуктоўшчыкаў) на 36 асоб, курсаў мясьнікоў—на 30 асоб, курсаў прадаўцоў прамтавараў—на 34 асобы і курсаў буфэтчыкаў—на 38 асоб.

З 10 мая пачалі працаваць курсы па падрыхтоўцы загадчыкаў магазынаў, якія разьлічаны на 35 асоб і ўкамплектаваны выключна вылучэнцамі з рабочых.

Усе падрыхтаваныя на курсах працаўнікі будуць скарыстаны для работы на прадпрыемствах МЦРК і змогуць своечасова замяніць працаўнікоў, якія будуць зьняты з работы ў часе чысткі апарату МЦРК.

## Кіно-мэханікі Белкаапсаюзу пераходзяць у саюз саўгандальслужачых

Прэзыдыум ЦП саюзу працмастацтва вынес пастанову аб пераводзе кіно-мэханікаў вясковай кіно-сеткі БКС у саюз саўгандальслужачых.

Да гэтага часу большасьць кіно-мэханікаў БКС знаходзілася ў саюзе працаўнікоў мастацтва, што ўносіла вялікія перашкоды

па нармальнаму абслугоўваньню кіно-мэханікаў саюзнымі арганізацыямі, бо на месцах ячэек саюзу працмастацтва няма, а гарадзкія камітэты адзінак саюзу ПМ не змаглі задаволіць патрабаваньні кіно-мэханікаў, якія былі раскіданы па ўсіх раёнах акругі.

Дзякуючы такому становішчу кіно-мэханікі былі адарваны ад саюзу, што спрыяла ўзьнікненьню паміж імі і некаторымі спажывецкімі таварыствамі розных непаразуменьняў і канфліктаў, для вырашэньня якіх у кожным асобным выпадку кіно-мэханікам ці прадстаўніком праўленьняў спажывецкіх таварыстваў даводзілася выяжджаць у акругу.

Усё гэта, бязумоўна, дрэнна адбівалася на кіно-рабоце таварыства.

З пераходам-жа кіно-мэханікаў у саюз саўгандальслужачых, мясцкомы якога знаходзяцца пры кожным спажывецкім таварыстве, усе гэтыя недарэчнасьці будуць вырашацца на месцы.

## Першы трансляцыйны радыё-вузел у вёсцы

Гэтымі днямі Менскае аддзяленьне БКС адчыніла ў в. Караваева, Сьмілавіцкага раёну, трансляцыйны радыё-вузел. Зараз ужо ўстаноўлена 40 радыё-кропак. Радыёфікаваны школа, хата-чытальня і кватэры калгасьнікаў. Усяго радыё-вузел разьлічаны на 200 кропак.

Цяпер праводзіцца работа па ўстаноўцы новых радыё-кропак па кватэрах калгасьнікаў і навакольнага насельніцтва.

Пры нанова адчыненым трансляцыйным радыё-вузьле даецца кансультацыя мясцовым радыё-аматарам па канструкцыі апаратаў і іншых пытаньнях, якія зьвязаны з радыё.

Караваеўскі трансляцыйны вузел зьяўляецца першым у Менскай акрузе.

Зараз Менаддзяленьне прапрацоўвае пытаньне аб адчыненьні яшчэ аднаго гэткага ж вузлу, а ўсяго па Менскай акрузе на працягу гэтага году будзе адчынена 9 (разам з Караваеўскім) трансляцыйных радыёвузлоў.

## Атрыманы новыя радыё-апараты

Белкаапсаюз атрымаў 290 камплектаў чатырохлямпавых радыё-прыёмнікаў тыпу БЧН.

Гэтыя радыё-прыёмнікі будуць скарыстаны часткай для абслугоўваньня сэзонных рабочых, часткай для трансляцыйных вузлоў у саўгасах.

## Атрымана 39 кіно-перасовак

БКС атрымаў 39 кіно-перасовак, якія ўжо накіраваны па ўсіх акругах.

БКС закупіў 20 шасьцісільных „Дынамо“ для абсталяваньня кіно-станцыянараў на вёсцы. Усё ўжо разьмеркавана па акругах.

# Да ведама каапэрацыйных арганізацый

## Ільготы па прампадатку саўгасам, калгасам і сельскім спажывецкім таварыствам

Народны камісарыят грашовых спраў, на падставе арт. 40 палажэньня аб дзяржаўным прамысловым падатку, пастанавіў дадаць ільготы і вызваліць ад падатку звароты савецкіх і калектыўных гаспадарак па перавозцы пошты ў сельскіх мясцовасьцях.

Апрача таго, вызваліць ад прампадатку звароты сельскіх спажывецкіх каапэрацыйных арганізацый, якія абслугоўваюць раёны суцэльнай калектывізацыі: а) па продажу сельска-гаспадарчых прадуктаў, што выпрабляюцца ў гэтым раёне, б) сталовак бяз водпуску моцных напіткаў.

## Разьвіцьцё безналічных разьлікаў

Саўнарком пастанавіў разьвіваць безналічныя разьлікі па масавых плацяжох насельніцтва дзяржаўным, каапэрацыйным і грамадзкім прадпрыемствам і арганізацыям і абавязаць каапэрацыйныя арганізацыі, якія знаходзяцца ў тых пунктах, дзе ўводзяцца апэрацыі па безналічных разьліках, прыстасаваць формы разьлікаў з платнікамі і атрымацелямі грашовых сум, у тым ліку і заработнай платы, да форм безналічных разьлікаў.

## Забарона выдачы тавараў у крэдыт

Праўленьне Дзяржаўнага банку абвясьціла, што забарона дзяржаўным органам і каапэрацыйным арганізацыям адпушчаць тавары і даваць паслугі адзін аднаму ў крэдыт уводзіцца ў дзейнасьць з першага красавіка 1930 г.

З 1 красавіка 1930 году спыняецца залік выдадзеных авансаў пры разьліку за тавары і паслугі. Рэшта авансу належыць звароту паміж 1 і 15 красавіка.

## Фонд доўгатэрміновага крэдытаваньня

ЦВК і Саўнарком пастанавілі адлічаць штогод 35% ад чыстага прыбытку Цэнтрасаюзу СССР і яго сэкцый ва Ўсесаюзны фонд доўгатэрміновага крэдытаваньня спажывецкай каапэрацыі. Зьвярнуць у спэцыяльныя фонды доўгатэрміновага крэдытаваньня спажывецкай каапэрацыі 50% амартызацыйных адлічэньняў.

Сумы, якія паступаюць у спэцыяльныя фонды спажывецкай каапэрацыі ад амартызацыйных адлічэньняў, перадаюцца ва Ўсесаюзны фонд цалкам, а з астатніх сум, якія паступаюць у спэцыяльныя фонды, перадаецца ва Ўсесаюзны фонд 20%.

**У чэрвені адбудзецца зьезд упаўнаважаных спажывецкай каапэрацыі. Уносьце свае прапановы да зьезду пра нашу часопіс.**

# БІБЛІОГРАФІЯ

**Н. И. Козняков. Кооперация. Первый год пятилетки и контрольные цифры 2-го года. Дзяржаўнае выдавецтва Масква-Ленінград. 1930 г. 48 стар. Цана 10 кап.**

Пяцігадовы плян разьвіцьця народнай гаспадаркі, прыняты на XVI партканфэрэнцыі і Ўсесаюзным зьездам саветаў, зьявіўся першай, разьлічанай на шэраг год канкрэтнай праграмай сацыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне.

Адным з важнейшых зьвеньняў нашага агульнага ланцугу сацыялістычнага будаўніцтва зьяўляецца кааперацыя. Пяцігадовы плян разглядае кааперацыю, як адзін з асноўных падважнікаў сацыялістычнага будаўніцтва.

Шляхам каапераваньня і пры моцным падтрыманьні кааперацыі з боку пралетарскай дзяржавы, мы вырашаем задачу ўцягненьня дробнай таварнай гаспадаркі ў сацыялістычнае будаўніцтва—задачу яе перарабленьня і абагульваньня.

У гэтым ёсьць сэнс «кааперацыйнага пляну Леніна», які зьяўляецца моцнаю зброяй сацыялістычнага будаўніцтва ў руках пралетарыяту.

Каб плян ня быў фікцыяй, у ім павінны прыняць удзел шырокія колы саміх працоўных, дзеля чаго патрэбна шырокая папулярызацыя нашага кааперацыйнага пляну ў агульным пляне пяцігодкі.

У сучасны момант, пры шырокай калектывізацыі вёскі і ліквідацыі кулацтва, як клясы, у раёнах суцэльнай калектывізацыі наша с.-г. кааперацыя адыгрывае адну з галоўных роляў.

Пяцігадовым плянам было вызначана ўцягнуць у кааперацыю к канцу пяцігодкі 23.580 тыс. сялянскіх гаспадарак, або 85% іх агульнай колькасьці, у кааперацыю.

К канцу першага году с.-г. кааперацыя аб'яднала 11.810 тыс., або 46%. Гэта ёсьць ужо вялікія дасягненьні.

Лістападаўскі пленум ЦК УсеКП(б) сказаў, што «колхозное строительство, являясь неразрывной частью единного кооперативного плана Ленина и высшей формой кооперирования, может успешно развиваться, лишь опираясь на всю систему с.-х. кооперации».

Вывучэньне і азнаямленьне з тэй ці іншай галіной нашага вялікага пляну сацыялістычнага будаўніцтва ёсьць абавязак кожнага працоўнага. Таму прыходзіцца вітаць Дзяржаўнае выдавецтва, якое выпускае папулярную сэрыю кніжачак аб пяцігодцы.. Адной з такіх кніжачак і зьяўляецца кніжачка Н. Казьнякова пра кааперацыю.

Кніжка напісана проста і зразумела. Яна будзе даступна шырокім колам нашых чытачоў. Кніжка ілюстравана канкрэтнымі лічбамі-паказчыкамі і зьвязана з агульнымі важнейшымі палітычнымі пытаньнямі. Цана кніжкі не дарагая.

**Ів. Падбіты.**

---

**К. Кіпрыянец. «Соцыялістычнае землявробства і прамысловасьць БССР на першай Усебеларускай выстаўцы». Выданьне БДВ. Менск. 1930 г. 36 стар. 8 кап.**

У жніўні месяцы 1930 г. адчыняецца каля Менску першая Ўсебеларуская выстаўка сельскай гаспадаркі і прамысловасьці.

На першай усебеларускай выстаўцы будуць паказаны тледачу ўсе дасягненьні Савецкай Беларусі за час яе вольнага існаваньня.

Адчыненьне выстаўкі прыстасавана да дня сьвяткаваньня 10-годзьдзя вызваленьня БССР ад белапалякаў.

Цяпер у нашым друку вядзецца растлумачальная праца аб палітычным і каштоўным значэньні 1-ай Ўсебеларускай выстаўкі с. г. і прамысловасьці.

У апошні час вышла з друку кніжачка К. Кіпрыянца аб выстаўцы.

Кніжачка Кіпрыянца паказвае, якія задачы стаяць перад выстаўкай, як ідзе падрыхтоўка да выстаўкі і што будзе паказана там.

Напісана кніжачка зразумела і ясна. Апавядаецца паступова пра ўсе аддзелы выстаўкі, даюцца іх мэтавыя ўстаноўкі, і такім чынам перад чытачом паўстае загадзя будучая аграмадная першая ўсебеларуская выстаўка с. г. і прамысловасьці. Кніжачка зьвязана з агульнай палітычнай ўстаноўкай выстаўкі.

Бязумоўна кніжачка Кіпрыянца зьявіцца першым элемэнтарным дапаможнікам таму, хто зацікавіцца выстаўкай.

Патрэбна-б было толькі ў кніжачцы больш спыніцца на растлумачальным баку: як даставіць на яе экспанаты і адкуль яны галоўным чынам будуць ісьці, а таксама як лепш зрабіць масавае наведваньне яе.

З тэхнічнага боку кніжачка выдадзена добра. Загаловак усё-ж завялікі і нагадвае сабою амаль ня цытату з абежніку.

Кніжку можна раіць для ўсіх тых, хто цікавіцца выстаўкай, хто цікавіцца будаўніцтвам Савецкае Беларусі.

**Т. Даўганосік.**

---

**И. Андреев.—Заем «Пятилетка в четыре года». Выданьне «Прибой»—1930 г. Цена 5 коп. 30 стр.**

Пастаўленая перад Савецкім Саюзам задача—дагнаць і перагнаць перадавыя краіны—задача кančэтне самiх працоўных.

Пасьпяховае выкананьне нашага пяцігадовага пляну дае працоўным магчымасьць высунуць лёзунг—пяцігодка ў чатыры гады.

Акрамя таго шырокага энтузыязму, які ўзьняў сярод шырокіх колаў працоўных навокал лёзунгу—пяцігодка ў чатыры гады, патрэбна яшчэ і шырокая мабілізацыя грашовых сродкаў дзеля таго, каб выкарыстаць іх з большаю карысьцю для нашай індустрыялізацыі.

Адным з відаў працоўных сродкаў для індустрыялізацыі зьяўляюцца нашы ўнутраныя пазыкі з 64,6 мільярд. руб. якія за пяцігодку павінны быць затрачаны на будаўн. 6 мільярд. руб. павінны быць атрыманы праз пазыкі.

Зьмяншэньне агульнае колькасьці тыражоў у год дасьць магчымасьць працоўным лепш сачыць за выйгрышамі, іх выплатай. Таксама гэта пазыка дасьць магчымасьць лепш скарыстаць і «малейшее сбережение», а «малейшее сбережение сохранять для развития нашей крупной машинной индустрии»—пісаў Ул. І. Ленін.

Пазыка павінна быць выпушчана не пазьней 1-га жніўня 1930 году і рэалізавана да 1-га студзеня 1931 году.

Кніжка Андрэева дасьць значны матар'ял для працы сярод шырокіх колаў працоўных нашаму актыву. З ёй варта пазнаёміцца ня толькі актыву, які будзе працаваць па распаўсюджваньню пазыкі, але і кожнаму працоўнаму.

**П. Барокін.**

---

**Сохраняйте утиль. Выданьне Наркамгандлю СССР і РСФСР, Масква 1930 г. Цана 4 кап. 30 стар.**

Ажыцьцяўленьне пяцігадовага пляну сацыялістычнага будаўніцтва патрабуе мабілізацыі ўсіх сыр'явых рэсурсаў краіны.

У апошні час, калі камсамол шырока разгарнуў справу па збору ўтыльсыравіны, якая гіне пад нагамі, нам для большага ўясьненьня ўсяе важнасьці гэтае справы патрэбна і масавая кніжка як дапаможнік у гэтым пытаньні.

Кніжка «Сохраняйте утиль» вельмі каштоўная і цікавая. Яна кваліфікуе на разрады ўсякія водкіды ў тэй ці іншай галіне гаспадаркі; паказвае, што больш карысна з утылю і як лепш яго скарыстаць.

Так, напрыклад, у 1913 годзе з Расеі вывозілася ўтылю на 1.700.000 рублёў, а ў 1926-27 г.—на 4.500.000 р., у 1924-29 г.г.—8.200.000 р.—вось які даход мы атрымліваем ад утылю.

Галоўнымі краінамі, якія бяруць наш утыль, зьяўляюцца Амэрыка, Англія, Нямеччына, і мы ў апошні год гэту справу экспарту паставілі добра: давялі ад 4 сартоў адпраўнага утылю да 80.

Кніжка разьбівае на наступныя 7 аддзелаў усе галіны па выкарыстаньню утылю: утыль для выпрацоўкі штучнае шэрсьці, утыль для ваты, дапасаваньне кароткага валакна, скарыстаньне касьцей у прамысловасьці, скарыстаньне старой гумы, скарыстаньне коркаў і скарыстаньне скурных водкідаў.

Нашым нізавым каапэрацыям будзе надзвычайна цікава пазнаёміцца з гэтай новай і карыснай кніжачкай. Яна зьявіцца добрым даведнікам у вялікай справе збору утыльсыравіны.

**Р. Цэодва.**

# Афіцыйны куток

## Пастанова ЦК УсеКП(б) аб працы спажывецкай каапэрацыі

1. Барацьба партыі за сапраўднае палепшаньне забясьпекі працоўных мас гораду і вёскі, за грунтоўную перабудову быту працоўных, за павялічэньне ўзроўню рэальнага заработку рабочых, за здавальненьне новых патрэб, якія ўзьнікаюць у сувязі з калектывізацыяй мільёнаў сялянскіх гаспадарак, нязьмерна павялічвае адказнасьць сыстэмы спажывецкай каапэрацыі за выкананьне ўскладзеных на яе вялізарных гаспадарчых заданьняў, запраэктаваных пяцігодкаю і кантрольнымі лічбамі на 1929-30 г.

2. Аднак, не зважаючы на значны рост каапэраваньня насельніцтва, пашырэньне гандлёвай сеткі і сеткі грамадзкага харчаваньня і хлебапецтва, павялічэньне гандлёвых зваротаў, якія даходзяць ужо да 12 мільярдаў руб. розьнічнага продажу—арганізацыйныя мэтады і тэмпы працы спажывецкай каапэрацыі працягваюць адставаць ад агульных тэмпаў савецкага будаўніцтва. Слабое правядзеньне важнейшых заданьняў аб зьніжэньні цэн на тавары шырокага ўжываньня, нясупынны самацёк у працы, няўменьне гандляваць, абслугоўваць спажыўца, няўменьне манэўраваць тарнымі фондамі, слабая праца па арганізацыі падгародных гаспадарак, бюракратызацыя працы і вельмі слабое разгортваньне грамадзкасьці, адсутнасьць сапраўднага сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, слабасьць каапэрацыйных кадраў і засьмечанасьць апарату чужым элемэнтам,—усё гэта вымагае ўзмоцненай увагі партыйных, прафсаюзных і савецкіх арганізацый да задач палепшаньня ўсяе працы каапэрцыйнай сыстэмы.

3. З мэтаю зьнішчэньня паказаных недахопаў у працы спажывецкай каапэрацыі і поўнага ажыцьцяўленьня ўскладзеных на яе кантрольнымі лічбамі заданьняў, ЦК УсеКП(б) лічыць неабходным: а) абавязаць усе партыйныя арганізацыі ўзмацніць кіраўніцтва працаю спажывецкай каапэрацыі, дамагчыся рашучага пералому ў яе працы, каб забясьпечыць выкананьне колькасных і якасных паказчыкаў заданага партыяй і ўрадам пляну; узмацніць камуністычную праслойку ва ўсіх зьвеньнях каапэрацыі; узьняць партыйную і прафсаюзную грамадзкасьць на праверку і палепшаньне працы і склад яе апарату, арганізоўваючы шырока вылучэнства, мабілізуючы рабочую актыўнасьць, карыстаючыся пэрыядычнымі формамі масавага кантролю, у прыватнасьці, шляхам арганізацыі і праверкі каапэрацыйнай працы рабочымі брыгадамі; усямерна спрыяць чыстцы каапэрацыйнага апарату, выкарыстоўваючы вопыт чысткі для далейшага яго арганізацыйнага палепшаньня; б) абавязаць усе сельскія партыйныя арганізацыі згрупаваць увагу батрацка-бядняцкага і серадняцкага актыву і калгасьнікаў на пытаньнях палепшаньня і патаненьня сельскай сеткі спажывецкай каапэрацыі і выкананьня ёю пляпаў; абавязаць усе партыйныя і прафсаюзныя арганізацыі аддаць асаблівую ўвагу на правядзеньне ў жыцьцё сацыялістычнага спаборніцтва ўнутры сыстэмы спажывецкай каапэрацыі паміж асобнымі саюзамі, прадпрыемствамі і г. д.; в) прапанаваць Цэнтрасаюзу ў месячны тэрмін падаць у Савет Працы і Абароны свае канкрэтныя арганізацыйныя прапановы, якія забясьпечваюць выкананьне пастаўленых перад каапэрацыяй новых задач, у прыватнасьці, па пытаньні аб пабудаваньні гандлёвай сеткі і аб шляхох тавараправоўваньня. Гэты праэкт павінен асабліва прадугледзець формы сувязі з мясцовымі каапэрацыйнымі саюзамі, якія забясьпечваюць сваячасовую сыгналізацыю партыі і ўраду аб адбываючыхся працэсах і зьменах у таваразвароце; г) прапанаваць НК Гандлю СССР разам з ВСНГ СССР і Цэнтрасаюзам у 2-месячны тэрмін распрацаваць і падаць у Савет Працы і Абароны праэкт мерапрыемстваў па забясьпецы каапэрацыйнай сыстэмы на аснове заявак нізавой сеткі; д) прапанаваць Цэнтрасаюзу дамагчыся павялічэньня рэнтабельнасьці гандлёвай працы спажывецкай каапэрацыі з устанаўленьнем нармальнага прыбытку за кошт рацыяналізацыі, скарачэньня накладных і гандлёвых выдаткаў, барацьбы са стратамі і пакражамі, але не за кошт павялічэньня цэн на тавары; е) прапанаваць Цэнтрасаюзу дамагчыся ў бліжэйшы час каранного пералому ў справе выкнаньня плянавых заданьняў па зьніжэньні сабекошту прадукцыі ў прамысловых прадпрыемствах спажывецкай каапэрацыі, падаўшы аб гэтым даклад у Савет Працы і Абароны не пазьней 15 чэрвеня г.г. Даручыць мясцовым партарганізацыям заслухаць спэцыяль-

ныя даклады аб выкананьні пляну зьніжэньня сабекошту прадукцыі прампрадпрыемстваў спажывецкай каапэрацыі. Прапанаваць «Правде», «Экономической Жизни», «Кооперативной Жизни» і ўсяму мясцоваму друку арганізаваць шырокае асьвятленьне гэтых пытаньняў.

4. Адначасна з гэтым ЦК УсеКП(б) лічыць неабходным: а) прапанаваць Цэнтрасаюзу прэпадаць неадкладна рэспубліканскім і абласным саюзам, а таксама буйным ЦРК цьвёрдыя нормы астачы тавараў, з давядзеньнем іх да крам і асобных прадпрыемстваў, з такім разьлікам, каб у 3-м квартале агульная сума астач была зьніжана супроць 1 студзеня на суму ня менш за 250 мільёнаў рублёў. Прапанаваць Цэнтрасаюзу мець пільны нагляд за рухам таварных запасаў і за іх структурай па ўсёй каапэрацыйнай сыстэме; б) забараніць усім арганізацыям браніраваць тавары без дазволу НК Гандлю СССР. Пры гэтым броня тавараў звыш нормы, прадугледжанай плянам Цэнтрасаюзу, робіцца, пачынаючы ад 3-га кварталу, толькі па пастанове ўраду з адначасным паказаньнем крыніц фінансаваньня; в) катэгарычна забараніць усім партарганізацыям абавязваць спажывецкую каапэрацыю да якога там ні было-б будаўніцтва як капітальнай, так і падгароднай гаспадаркі, звыш зацьверджанага ўрадам пляну капітальнага будаўніцтва ў суме 175 мільёнаў руб. і на падгародную гаспадарку ў суме 125 мільёнаў рублёў. Лічыць неабходным, каб у паказаных плянах былі ў першую чаргу забясьпечаны інтарэсы Масквы, Ленінграду, Данбасу, Крыварожжа і Ўраду. Абавязаць усе мясцовыя партарганізацыі забясьпечыць выкананьне пастановы ўраду аб мабілізацыі сродкаў прафсаюзаў і мясцовага бюджэту на будаўніцтва падгародных гаспадарак; г) забараніць рэспубліканскім, краявым і мясцовым органам забіраць што-небудзь з сродкаў спажывецкай каапэрацыі ў розныя мясцовыя фонды, а таксама абавязаць сыстэму спажывецкай каапэрацыі ня ўступаць у акцыйныя і іншыя таварыствы, калі гэта не прадугледжана кантрольнымі лічбамі Цэнтрасаюзу; д) лічыць магчымым устанаўленьне Цэнтрасаюзам, са згоды НК Гандлю СССР, некаторых дадатковых пераваг для сяброў каапэрацыі ў параўнаньні з несябрамі, за выключэньнем нармаваных харчовых прадуктаў; е) распаўсюдзіць палёгкі, якія маюць дзярж. саўгасы, таксама і на каапэратывы; ж) у сувязі з тым, што фінансавы плян спажывецкай каапэрацыі напружаны, прызнаць неабходным павялічэньне дыфэрэнтаванага паю для гораду на 2 руб. 50 кап. у сярэднім з максымальным павялічэньнем на 10 рублёў для высокааплачваемых груп, для вёскі—2 р. у сярэднім з тым, каб гэтае мерапрыемства праводзілася па горадзе па працягу другога паўгодзьдзя 1929-30 г., а па вёсцы—на працягу апошніх трох месяцаў бягучага году».

---

# Пастанова эканамічнае нарады пры СНК БССР

## па дакладу Белкаапсаюзу „пра паянакапленьне ў спажывецкай каапэрацыі

Заслухаўшы даклад Белкаапсюзу аб ходзе паянакапленьня ў спажывецкай каапэрацыі за першае паўгодзьдзе бягучага году, Эканамічная нарада пры Савеце народных камісараў БССР **канстатуе:**

1. Зусім нездавальняючае выкананьне заданьняў па збору паёў і ўкладаў па спажывецкай каапэрацыі за 1-ае паўгодзьдзе 1929-30 г., асабліва па сэктару рабочай каапэрацыі: паўгадовы плян паянакапленьня выканан па сельскаму сэктару на 70 проц., па рабоча-гарадзкому сэктару на 43 проц.; паўгадовы плян па збору ўкладаў выканан на 72 проц.

2. Гэта невыкананьне плянаў мабілізацыі сродкаў насельніцтва зьявілася ў выніку таго, што спажывецкай каапэрацыяй ня былі своечасова ўжыты ўсе належныя захады па ўзьдзейнічаньню на асобныя арганізацыі, якія ня выконвалі пляну, а таксама з прычыны вельмі слабога прыцягненьня да гэтай справы грамадзкасьці, у першую чаргу каапэрацыйнай.

Лічачы, што лічбы выкананьня пляну збору паёў і ўкладаў паказваюць на пэўную пагрозу магчымага зрыву фінансавага пляну спажывецкай каапэрацыі, Эканамічная Нарада пастанўляе:

1. Даручыць Белкаапсаюзу ў 10-дзённы тэрмін распрацаваць мерапрыемствы, якія павінны ў працягу 2-га паўгодзьдзя 1929-30 г. забясьпечыць поўнае выкананьне гадавых кантрольных лічбаў па мабілізацыі сродкаў насельніцтва.

2. Прапанаваць Белкаапсаюзу ў мэтах больш пасьпяховага выкананьня пляну збору паёў па спажывецкай каапэрацыі прымяняць сыстэму эканамічнага заахвочваньня тых арганізацый, якія добра выконваюць плян паянакапленьня, а таксама прыняць меры да разгортваньня

шырокай растлумачальнай працы ў напрамку прыцягненьня грамадзкасьці да ўдзелу ў зборы паёў.

3. Даручыць гарадзкім саветам і раённым выканаўчым камітэтам садзейнічаць спажывецкай каапэрацыі ў справе збору паёў, укладаў, і авансаў, а таксама заслухоўваць даклады гэтых арганізацый аб ходзе выкананьня вызначаных плянаў па мабілізацыі сродкаў насельніцтва.

4. Лічыць неабходным кампанію па выкананьню кантрольных лічбаў па мабілізацыі сродкаў насельніцтва шырока асьвятляць у пэрыядычным друку, вылучаючы асобныя арганізацыі, якія ідуць уперадзе, а таксама і тыя, якія адстаюць у гэтай справе.

Старшыня Савету Народных Камісараў і Эканамічнае Нарады БССР
**М. Галадзед.**

Нам. Кіраўніка Спраў Савету Народных Камісараў і Эканамічнае Нарады БССР **Л. Дубавіцкі.**

8 мая 1930 .
Менск.



*Рэдакцыйная калегія—Рэдактар* **Гінзбург**
*Выдавец:*—**Белкаапсаюз і Белсампрамсаюз**